


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

15 лістапада 2002 года

№ 46 (395)
Выходзіць па пятніцах

плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Перахапілі 256 шапак

**АСТРАВЕЦ**. У лакаматыве цягніка "Вільнюс-Масква" памежны нарад знайшоў 256 шапак з пясца.
Пры разборы гаспадара кантрабанднага тавару не знайшлі. Шапкі ацэненыя ў 13 мільёнаў рублёў.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Маладзечанец – чэмпіён Еўропы

**МАЛАДЗЕЧНА**. Эдуард Вазновіч стаў чэмпіёнам Еўропы па тайландскім боксе ў катэгорыі звыш 91 кг.
Спаборніцтвы праходзілі ў Італіі. Эдуард – выхаванец маладзечанскага клуба "Гладыятар". Спартсмена рыхтаваў **Міхаіл Панцюхоў**.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Збіў ласіху

**МЯДЗЕЛ**. У мінулы чацвер жыхар Віцебска на аўтамашыне на трасе Полацк-мяжа Літвы наехаў на ласіху.
Тая загінула. А важыла яна за дзве тоны. Вадзіцель не пацярпеў: як-ніяк, ехаў ён на МАЗе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Замуж за амерыканца

**ВАЛОЖЫН**. 9 лістапада ў ЗАГСе зарэгістравалі шлюб паміж валожынкай і амерыканцам.
Яны справілі сціплы вечар па беларускіх традыцыях. На вяселле прыйшла паглядзець палова Валожына. Маладыя застануцца жыць на радзіме мужа.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Абрабавалі магазін

**ВІЛЕЙКА**. 7 лістапада невядомыя ў масках абрабавалі гарадскі магазін №72.
Злодзеі напалі на прадаўца, калі яна выйшла на вуліцу. З падсобнага памяшкання вынеслі віно, гарэлку, шампанскае – усяго прыкладна на 700 тысяч рублёў.
Злодзеяў не знайшлі. Мяркуецца, што іх было не менш трох чалавек.

**Ірына РАБУШКА.**

### Новы начальнік міліцыі

**СМАРГОНЬ**. У панядзелак да сваіх абавязкаў прыступіў новы начальнік Смаргонскага РАУС 36-гадовы падпалкоўнік **Мар'ян Ляхоўскі**.
Нарадзіўся на Ашмяншчыне. Да пераезду ў Смаргонь працаваў першым намеснікам начальніка Ашмянскага РАУС. Былы начальнік смаргонскай міліцыі Дзмітрый Казакевіч пайшоў на пенсію.

**Ірына РАБУШКА.**

# Валожынскі канфлікт



На маладзечанскім калгасным рынку гандлююць у асноўным мясцовыя прадпрымальнікі. Але месца тут хапае ўсім.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Лепшыя гандлёвыя месцы на рынках даюць толькі мясцовым

**ВАЛОЖЫН. Райвыканкам сваім распараджэннем №128р падзяліў прадпрымальнікаў на мясцовых і іншых. Мясцовым далі выгоду займаць лепшыя гандлёвыя месцы на рынках раёна. Астатнім – тое, што застанецца.**

Бранiраванне гандлёвых месцаў на валожынскім рынку праводзіцца штомесяц. На практыцы атрымлівалася, што любы валожынскі прадпрымальнік, якому спадабалася "хлебнае" месца, пісаў заяву ў адміністрацыю рынку і на наступны месяц зганяў немясцовага прадпрымальніка. Нягледзячы на тое, што той пяць гадоў там гандляваў і спраўна плаціў усе падаткі. У выніку большасць маладзечанскіх прадпрымальнікаў за некалькі месяцаў выціснулі са сваіх месцаў.

Маладзечанскія прадпрымальнікі на валожынскі рынак райспажыўтаварыства прыйшлі з пяць гадоў таму. За гэты час яны вывучылі попыт валожынцаў і мелі добрую выручку. Месцы, дзе стаялі палаткі маладзечанцаў, лічыліся папулярнымі, бо туды прыходзіла шмат народу.

За апошнія год-два на рынак сталі прыходзіць валожынскія прадпрымальнікі. Маладзечанцы сцвярджаюць, што большасць мясцовых гандляроў не можа скласці ім канкурэнцыі, бо досвед работы ў маладзечанцаў намнога большы. Але з'явілася распараджэнне райвыканкома, якое пацягнула за сабой канфлікты і спрэчкі паміж валожынскімі і іншагароднімі прадпрымальнікамі.

У распараджэнні зазначана, што "браніраванне і выдзяленне гандлёвых месцаў на рынках раёна і горада трэба праводзіць у першую чаргу суб'ектам гаспадарання і індывідуальным прадпрымальнікам, якія зарэгістраваны на тэрыторыі Валожынскага раёна. Іншагароднім суб'ектам гаспадарання і індывідуальным прадпрымальнікам выдзяленне і браніраванне гандлёвых месцаў праводзіць толькі пры іх наяўнасці".

Дырэктар рынкаў Валожынскага райспажыўтаварыства **Марына Гвінт** пацвердзіла, што рашэнне райвыканкома пацягнула за сабой спрэчкі сярод прадпрымальнікаў, але яго трэба выконваць. М. Гвінт зазначыла, што немясцовым прадпрымальнікам стараюцца даць новыя месцы недалёка ад мінулых.

– Размаўляем з валожынскімі прадпрымальнікамі, пераконваем іх не адбіраць занятыя месцы. З нехарчовымі месцамі больш-менш разабраліся. Паставілі шчыльней палаткі, за кошт гэтага з'явіліся новыя месцы.

Большасць канфліктаў узнікае за месцы, на якіх гандлююць харчовымі таварамі. Вясной тэрыторыя рынку пашырыцца, таму спрэчкі вырашым і тут. Рынак зацікаўлены ў канкурэнцыі сярод прадпрымальнікаў, бо чым больш на рынку гандляроў, тым больш выручка за гандлёвыя месцы. А за гэты час з валожынскага рынку сышла толькі адна маладзечанская прадпрымальніца. Астатнія працу не кінулі.

Маладзечанскія прадпрымальнікі цярпелі некалькі месяцаў і звярнуліся ў рэдакцыю "РГ" толькі на мінулым тыдні. Тады, калі ўбачылі, што іх могуць выкінуць з рынку ўвогуле. Свайго прафсаюза іншагароднія прадпрымальнікі, што гандлююць на валожынскім рынку, не стварылі і ў іншыя не ўступілі. Да думкі, каб усім разам змагацца за свае правы, гэтыя прадпрымальнікі яшчэ не прыйшлі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Настаўнік года

Першымі ў жыцці музычнымі "інструментамі" ў выкладчыка Маладзечанскай дзіцячай музычнай школы Міхаіла Таўгеня былі каструлі. А на мінулым тыдні яго прызначылі настаўнікам года.



**2-я старонка**

### Аліменты – яйкамі

Жыхарцы Маладзечна, былы муж якой працуе ў гаспадарцы на Мядзельшчыне, прапанавалі ўзяць аліменты яйкамі. Прадпрыемства не можа своечасова выплачваць зарплату сваім работнікам.



**4-я старонка**

### Гісторыя азёр у паданнях

Балдук і Балдучыха – сведкі гібелі роднай вёскі, сталі, трымаючыся за рукі, а потым растаялі, ператварыліся ў азёры. Легенды аб утварэнні Блакітных азёр расказвае краязнаўца Іван Драўніцкі.



**8-я старонка**

■ ПАРТНЁРСКІЯ СУВЯЗІ

## Візіт польскіх музыкантаў

**МАЛАДЗЕЧНА. З 3 па 9 лістапада ў дзіцячай музычнай школе гасцявалі польскія сябры з Пётркува-Трыбунальскага. 19 выкладчыкаў і вучняў 12-17 гадоў прыехалі дзеля ўмацавання партнёрскіх і культурных сувязяў.**

Яны далі 2 канцэрты. Маладзечанцы адказалі адным. Палякі пабывалі ў музычным вучылішчы, на канцэрце Фінберга ў Палацы культуры і з'ездзілі ў Заслаўе.

Ірына РАБУШКА.

■ ГАСТРОЛІ

## Танец далёкай Індыі

**Танцавальны калектыў класічнага індыйскага танца на чале з Навінай Джафа выступаў у музычным вучылішчы.**

Маладзечанцы змаглі пачуць нацыянальную індыйскую музыку і пабачыць пластычны танец далёкай краіны сонца. А гэта зусім не тое, што глядзець звычайны індыйскі фільм. Слухачам-гледачам, якія прысутнічалі ў музычным вучылішчы, прыйшлося перабудаваць свае ўражанні пра індыйскія традыцыі танца.

Група артыстаў (танцоры, музыканты-інструменталісты, вакаліст) вынесла на суд гледачоў класічны індыйскі танец Катхак. Яго прынцып у тым, што вакаліст распявае пэўную гісторыю праз песню, а танцоры пад музыку паказваюць яе мімікай і жэстамі. Менавіта таму Катхак з'яўляецца сінтэтычным відам мастацтва, які спалучае ў сабе сцэнічнае дзеянне (танец), паэзію і музыку. Катхак вельмі моцна ўплывае на публіку, але далёка не ўсе разумеюць глыбокую значнасць кожнага яго элемента. На жаль, мы мала знаёмыя з законамі светаўспрымання і побытам Індыі.

Гастролі арганізавалі Індыйскі савет па культурных сувязях, пасольства Індыі ў Беларусі і Міністэрства культуры Беларусі.

Людміла АПЯЛІНСКАЯ.

■ ТЭАТР «БАТЛЕЙКА» ЗАПРАШАЕ

## Спячая прыгажуня

Якая маленькая дзяўчынка не ўяўляе сябе ў сне чароўнай прыгажуняй, якую абавязкова выратуе цудоўны прынц?! Тэатр лялек "Батлейка" запрашае вас ажыццявіць свае жаданні і стаць хоць на некаторы час казачнымі прынцамі і прынцэсамі, паназіраць за лялькамі, якія спрабуюць знайсці дабро і пераадолець зло.

Пачатак 16 лістапада а 12-й гадзіне.

## Тыграня «Петрык»

Акцёры запрашаюць вас разам з маленькім тыгранятКам Петрыкам адшукаць храбрасць. А як? Прыходзьце 17 лістапада а 12-й гадзіне! Растлумачым.

Таццяна ЧАЕЎСКАЯ.

■ НАСТАЎНІК ГОДА

# Ён рэдка ставіць «двойкі»

## Але і «пяцёрку» ў Міхаіла Таўгеня заслужыць складана

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні Міхаілу Таўгеню ўручылі спецыяльную прэмію ў намінацыі "Выкладчык года". Ён выкладае клас баяна ў дзіцячай музычнай школе. Амаль 10 гадоў кіруе ўзорным ансамблем народнай музыкі "Пацешкі".**

Родам Міхаіл з вёскі Кібуцці Валожынскага раёна. Гадаваўся ў музычнай сям'і. Яго бацькі, 4 браты і сястра – музыканты-самавучкі. Упершыню ўзяў «інструмент» у рукі ў 5 гадоў. Выбіваў рытм на каструлях і падаконніках. Бацька зразумеў, што ў сына ёсць музычны слых, і адвёз яго ў Валожынскую музычную школу. На вучобу прынялі. Прачынаўся зусёды з гімнам. Потым навучыўся іграць яго на баяне. Час бег хутка: школа, музыка, сямейны ансамбль.

У 4-м класе М.Таўгень пераехаў у Валожынскую школу-інтэрнат. Жыў самастойна. Ён гаворыць, што гэтак было лягчэй , чым 7 кіламетраў з родных Кібуцяў хадзіць у музычную школу. На выхадныя ездзіў на аўтобусе дамоў.

Потым закончыў Маладзечанскае музычнае вучылішча па класу баяна і застаўся працаваць. Праз некаторы час паступіў у кансерваторыю, што ў Мінску. Падчас вучобы забяспечваў сябе сам. Падыгрываў на вяселлях, вечарах. Займаўся па 6 гадзін у дзень.

Любімы кампазітар — Моцарт. Яшчэ песні Паўлса падабаюцца. Маўляў, калі іграеш класіку, думаеш пра музыку, а калі папулярныя песні — аб нечым сваім. "Такіх песень, якія цяпер запаланілі музычны свет, — кажа М.Таўгень, — па некалькі ў дзень магу складаць.

Выкладчык заўважае, што цяпер менш дзяцей ідзе ў музычную школу. Няма грошай ні на вучобу, ні на інструмент. Хаця ў нейкім сэнсе працаваць стала лягчэй. Больш адораных дзяцей. На вёсцы складаней: мала дзяцей, няма з каго выбіраць. "Двойкі" выкладчык ставіць не любіць. Такое здараецца толькі зрэдку. Складана заслужыць у яго і "пяцёрку". Напэўна, такім чынам прымушае займацца вучняў і сябе. Сваю ігру на баяне ён ацэньвае на «тройку». Як доказ, што выкладчык усё робіць правільна, — перамогі вучняў на разнастайных конкурсах, прызнанне яго "Пацешак" на міжнароднай сцэне.

Дзеці ў М. Таўгеня таксама здольныя да музыкі. Старэйшы сын закончыў кансерваторыю па класу ўдарных інструментаў. Малодшы – музычную школу па класу балалайкі. Абодва – лаўрэаты рэспубліканскіх конкурсаў.

Міхаіл Таўгень кажа:

— Скінуць бы гадоў 20. Можа, што змяніў. Толькі музыцы не здрадзіў бы. Наадварот, аддаў ёй больш часу.

Ірына РАБУШКА.



Выкладчык года-2002 Міхаіл Таўгень у сваім класным кабінеце.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ ПАДАРОЖЖА

# Маладзечанцы на гары Арарат

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета група беларускіх турыстаў, у тым ліку маладзечанцы Ніна і Сяргей Каняевы ўзышлі на гару Арарат.**

У складзе групы яшчэ былі майстар спорту Леанід Галубоўскі (кіраўнік групы), Ігар Герасімовіч, Аляксандр Гадлеўскі (прэзідэнт федэрацыі альпінізму Рэспублікі Беларусь).

Цяпер гара Арарат знаходзіцца на тэрыторыі Турцыі, а да 1918 года яна была на тэрыторыі Арменіі. Ад гары ўсяго ў некалькіх дзесятках кіламетраў знаходзяцца Арменія, Азербайджан, Ірак і Іран. А на дзяржаўным гербе Арменіі ёсць выява гары Арарат.

У гэтай мясцовасці жывуць курды. Займаюцца жывёлагадоўляй. У асноўным разводзяць авечак. Сем'і вельмі вялікія, ад 5 да 15 дзяцей. Да турыстаў адносяцца добразычліва, ідуць на кантакт.

Вада вельмі ў цане. У Ігдзіры па вуліцах раз'язджаюць прадаўцы пітной вады. Спачатку яе для групы закупілі ў краме, потым бралі ў пастухоў, затым – з ручаёў, што цяклі са снежнікаў, а ў базавым лагеры тапілі снег.

На вышыні 3200 метраў пакінулі частку рыштунку, узялі прадуктаў на 5 дзён і рушылі далей. На вышыні 4200 метраў паставілі базавы лагер. Адзін дзень зрабілі днёўку — дзень адпачынку для адаптацыі арганізма да вышыні. На наступны ў 4 гадзіны раніцы пачалі пад'ём. З 4500 метраў пачаліся снежнікі і лёд. Крок за крокам у 8.30 раніцы першымі на вяршыню Вялікі Арарат (5165 м) падняліся маладзечанцы – Сяргей і Ніна Каняевы, у 9 гадзін – усе астатнія. Узнялі дзяржаўны сцяг рэспублікі і крыж па даручэнні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта.

З надвор'ем на ўзыходжанні пашанцавала. Было ясна, але каля -10 градусаў і моцны вецер. На вяршыні пабылі каля 40 хвілін, доўга нельга – холадна. Спуск у базавы лагер хутчэй у два разы, чым пад'ём.

Дарога да цывілізацыі ўжо знаёмая. Потым быў адпачынак на возеры Ван (даўжыня каля 120 км, шырыня – 60), на вышыні 1700 метраў. Вада ў ім салёная, тэмпература каля +25. Па возеры ходзяць караблі. Ёсць лячэбныя гразі.

Уразіла турыстаў і тое, што за два тыдні не бачылі п'яных. А таксама мясцовая бульба – прыгожая, вялікая і таннейшая за нашу, як і большасць прадуктаў.

І з дазволу ўдзельнікаў паходу пра іх узрост. Самаму малодшаму А.Гадлеўскаму – 50, Каняевым – па 56, Л.Галубоўскаму і Ігару Герасімовічу – па 61.

Падарожнічалі за ўласныя сродкі. Сярэднія выдаткі на аднаго чалавека склалі 230 долараў.

Сяргей БЯЛКОЎ.



Беларускія турысты на вяршыні Арарата: Леанід Галубоўскі, Ігар Герасімовіч, Ніна Каняева і Сяргей Каняеў.

Фота Аляксандра ГАДЛЕЎСКАГА.

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Заязджай з другога боку!

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1 лістапада на праезнай частцы вуліц Л.Талстога, Б.Хмяльніцкага ў раёне калгаснага рынку працуе шлагбаум. Каб прыпаркаваць машыну пасля яго, каля калгаснага рынку, трэба заплаціць 500 рублёў за легкавы аўтатранспарт, матацыклы, гужавы транспарт і 1000 рублёў – за легкавыя аўтамабілі з прычэпам, мікрааўтобусы, аўтобусы, грузавыя аўтамабілі. Грошы збіраюць камунальнікі, выручка ідзе ў гарадскі бюджэт.**



Маладзечна, вуліца Талстога, 12 лістапада. Касір-кантралёр (справа) бярэ грошы з аўтаўладальнікаў за паркоўку аўтамабіля.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

За першыя тры дні работы сабралі амаль 410 тысяч рублёў. Яны пойдуць на добраўпарадкаванне горада і пагашэнне даўгоў за рамонт вуліцы Талстога.

Штодзень аплачваюць праезд праз шлагбаум уладальнікі 60-70 машын. У выхадныя дні – 100-150. Частка іх належыць работнікам і наведвальнікам калгаснага рынку. Каб завезці тавар на рынак, адведзены поўны час. Пасля яго – паставіў машыну, заплаці. Іншыя ж едуць на работу ў розныя ўстановы, што знаходзяцца па-за шлагбаумам, і проста дамоў. Да рэчы, рэдакцыя "РГ" таксама знаходзіцца "за рысай". Тыя, хто працуе "па другі бок", павінныя паказаць дакумент. Тыя, хто жыве "там", — пашпарт. А калі кватэру здымаеш і жывеш не па месцы прапіскі? Намеснік дырэктара па камунальных пытаннях УП "Камунальнік **Таццяна Цюшкевіч** гаворыць, што гэта іхнія праблемы. "Няхай заязджаюць з другога боку". Вадзіцелі чаго толькі не прыдумваюць, каб не плаціць за стаянку: інвалідамі прыкідваюцца, мнагадзетнымі бацькамі. Касір-кантралёр, што працуе на шлагбауме, кажа: "Палова шафёраў за паркоўку машын не плаціць. Абражаюць і ўцякаюць. І так па 7-8 гадзін у дзень даганяю вадзіцеляў і слухаю іх абразы.

Ад уплаты можа вызваліць толькі гарвыканком.

**Ірына РАБУШКА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 6.11 руб. | 14.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1888,00 | **1890,00** |
| Еўра | 1890,55 | **1904,18** |
| Злоты | 474,74 | **481,30** |
| Літ | 547,50 | **551,31** |
| Расійскі рубель | 59,39 | **59,40** |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1880/90 | **1890/1920** |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 6.11 | 13.11 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 10990 | **10990** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 4900 | **4900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2500 | **2500** |
| **Рыс**, 1 кг | 700 | **700** |
| **Грэчка**, 1 кг | 780 | **780** |
| **Цукар**, 1 кг | 865 | **865** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1380 | **1380** |
| **Алей**, 1 л | 2000 | **2000** |
| **Маянэз**, 200 г | 400 | **400** |
| **Кава «Пеле**, 100 г | 1900 | **1900** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 600 | **580** |
| **Соус там.«Мінскі»**, 0,5 л | 700 | **700** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 500 | **500** |
| **Капуста**, 1 кг | 350 | **400** |
| **Морква**, 1 кг | [illegible] | [illegible] |
| **Лімоны**, 1 кг | [illegible] | [illegible] |
| **Апельсіны**, 1 кг | [illegible] | **1300** |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| **Малако**, 1 л | 650 | **700** |
| **Смятана**, 1 л | 2000 | **2000** |
| **Масла**, 1 кг | 5000 | **4200** |
| **Тварог**, 1 кг | 2000 | **2200** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1900 | **1300** |
| **Бульба**, 1 вядро | 2800 | **2800** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 750 | **750** |

# Суседзі пасварыліся з-за вады

## Прадпрымальнік не дазваляе суседу карыстацца вясковым водаправодам

**МАЛАДЗЕЧНА. Як чалавеку правесці ваду да сябе ў дом, калі ў вёсцы ёсць водаправод, да якога 50 метраў, але ўласнік водаправода не дазваляе падключыцца?**

З такой праблемай сутыкнуліся муж і жонка **Пташнікі**, якія вясной пераехалі жыць у вёску Шэметаўшчына. Вясковы водаправод знаходзіцца ва ўласнасці мясцовага прадпрымальніка **Валянціна Гушчы**.

Пётр Пташнік расказвае, што Гушча вясной дазволіў яму і суседу падключыцца да водаправода. Купілі трубы, паставілі. Вада пайшла. Але пасварыліся з-за грошай. Пташнік сведчыць, што дамаўляліся на суму 250 долараў, а Гушча потым запатрабаваў 400. Першую суму ўладальнік водаправода не ўзяў, і двое работнікаў прадпрыемства, якім кіруе Гушча, перарэзалі водаправод за спробу самавольнага падключэння.

Прадпрымальнік расказвае, што ніякага дазволу на падключэнне Пташніку ён не даваў.

– Справа ў тым, што за апошнія гады ў вёсцы з'явілася каля дзесятка новых дамоў. І раней я дазваляў падключацца ўсім, хто хацеў. Але з-за павелічэння колькасці спажыўцоў магутнасцей воданапорнай вежы не стала хапаць. Летам, калі вада патрэбная ўсім для паліву агародаў, узніклі праблемы – быў малы напор. А тут з'явіўся Пташнік. Я адмовіў у інтарэсах астатніх вяскоўцаў. А калі праз колькі год пабудуюць яшчэ некалькі дамоў? Вежа разлічана на 10 спажыўцоў, а не на 18, як цяпер.

Пташніку і суседзям Гушча раіць сабраць грошы і падключыцца да водаправода птушкафабрыкі. Усе выдаткі дачнікаў за падключэнне да вясковага водаправода прадпрымальнік гатовы вярнуць.

Міліцыя летам разбірала канфлікт паміж суседзямі. Саставу злачынства ў дзеянні Гушчы не знайшлі, бо спробу Пташніка падключыцца да водаправода прызналі самавольнай. Пташнікі засталіся без вады. Для ўласных патрэб ваду бяруць у суседзяў. Пётр Пташнік сказаў, што прабурыць калодзеж на ўчастку будзе каштаваць некалькі тысяч долараў, бо вада, па дадзеных геолагаў, тут знаходзіцца на глыбіні больш за 100 метраў. Такія выдаткі Пташнікам не па кішэні.

Прадстаўнік улады, які вывучаў канфлікт у Шэметаўшчыне і захацеў застацца неназваным, расказаў, што Пташніку параілі звярнуцца да Гушчы. Калі не атрымаецца, то няхай гэтае пытанне вырашае суд. А Пташніку яшчэ пры праектаванні дома трэба было задумацца, адкуль ён будзе браць ваду.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ МАЛЫ БІЗНЕС

## Элітнае месца адпачынку

**МЯДЗЕЛ. Ідзе рэканструкцыя яхт-клуба на Нарачы.**

Мяркуецца, што гэта стане найлепшым месцам адпачынку на курорце. Там будзе вялікі катэдж, добраўпарадкаваная тэрыторыя з тэнісными кортамі, гліздзельная пляцоўка. Нават і хатка ў вясковым стылі будзе. Рэканструкцыю плануюць завяршыць да новага курортнага сезона.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Чый аўтобус?

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 кастрычніка на 2-м абласным фестывалі народнай творчасці "Напеў зямлі маёй" ДМШ атрымала Гран-пры і ўзнагароду мікрааўтобус. Пра гэта "РГ" пісала 2 тыдні таму.**

Але... З фестывальнай сцэны прагучала, што ўзнагарода застаецца ў Маладзечанскім гарадскім аддзеле культуры. Тое ж было напісана і ў дыпломе.

Музычная школа спрабуе купіць аўтобус для сваіх патрэб ужо пяты год.

Дырэктар ДМШ Б.Аўдзеенка пачала змагацца за прыз сваіх падапечных. Загадам аддзела культуры вырашана перадаць мікрааўтобус музычнай школе. Як сказала Б.Аўдзеенка, справядлівасць узяла верх. У гэтым жа дакуменце сказана, што дырэктар павінна скласці графік карыстання мікрааўтобусам усімі ўстановамі культуры.

Цяпер аўтобус стаіць у гаражы музычнай школы. І лічыцца на балансе аддзела культуры.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# На асвятленне двароў – 15 мільёнаў

**ВІЛЕЙКА. Статус любому населенаму пункту не даюць за так, і слова "горад" – таксама не выключэнне.**

У ім павінна быць вызначаная колькасць жыхароў, сістэма тэхнічных камунікацый, служба аховы здароўя, забяспячэнне людзей гарачай і халоднай вадой. Натуральна, гарады павінны добра асвятляцца. Гэтага вымагае бяспека жыхароў: не вельмі прыемна ўваходзіць у цёмны двор, калі далей за дзве выцягнутыя рукі дрэнна бачна і наогул не відаць, што робіцца пад нагамі.

Вілейскія двары раёна завода "Зеніт" не могуць пахваліцца асвятленнем. Дзе-нідзе гараць яркія лямпы, напрыклад, у двары дома №19 па вуліцы Гагарына, а жыхары астатніх двароў дабіраюцца да сваіх кватэр, асабліва цяпер, у зімовы час, арыентуючыся на святло з вокнаў.

Але ж яго недастаткова. Шмат дзяцей вучыцца ў другую змену, і ім боязна вяртацца дамоў, хаця на вуліцы яшчэ не позна. Скардзяцца на адсутнасць лямпаў у дварах і тыя, хто працуе па зменах. Не вельмі прыемна ісці па цемры, дзе хоць вока выкалі, у позні час ды яшчэ баяцца аступіцца ці ўваліцца куды-небудзь. Асабліва цёмна ў дварах раёна, абмежаваных вуліцай Талстога і аранжарэяй. Тут ёсць некалькі вялікіх дамоў, якія стаяць крыжамі, і ў іх дварах пануе занадта ўжо вялікі змрок.

"Зеніт" вырас за апошнія гады, раскінуўся ў бок чыгункі. Ён заўсёды быў самым вялікім раёнам у горадзе. Паблізу яго знаходзіцца некалькі школ, дзіцячыя сады. Але па вечарах, і тым больш ночу, людзі ідуць, як па глухой вёсцы.

Выправіць сітуацыю проста: некалькі моцных ліхтароў, якія можна павесіць на дамах, пажадана па два ці тры, на шматпавярхоўках – і горад ператворыцца калі не ў казачна асветлены палац, дык хоць у месца, вартае чалавечага жылля.

Дырэктар гарадскога вытворчага аб'яднання "Жыллёва-камунальная гаспадарка" (ГВА ЖКГ) **Васіль Валачкевіч** лічыць, што патрэбы насельніцтва ў асвятленні вуліц у асноўным задаволены і ў цяперашніх умовах ацэньвае сітуацыю нармальнай. Для яе паляпшэння не хапае грошай. На асвятленне штомесяц патрабуецца ад 10 мільёнаў рублёў у летні перыяд да 15 мільёнаў у зімовы. Па яго словах, камунальная служба стараецца, каб асвятленне было раўнамерным па горадзе.

**Алексей ЧУБАТ, Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Аліменты – натурай

**МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ. У мінулым нумары мы расказвалі гісторыю з маладзечанкай, аліменты якой прапануюць выплаціць збожжам.**

А ў панядзелак у рэдакцыю пазваніла яшчэ адна жыхарка Маладзечна **Вольга Будзько** і расказала, што ёй прапануюць узяць аліменты яйкамі.

Вольга атрымлівае аліменты на сваю 14-гадовую дачку. Гэта 3-7 тысяч штомесяц. Былы муж працуе ў рэспубліканскім унітарным сельскагаспадарчым вытворчым прадпрыемстве "Птушкафабрыка "Новая зара", што на Мядзельшчыне. Калі В.Будзько патэлефанавала ў бухгалтэрыю гаспадаркі, без сваркі не абышлося. Да таго ж яна звярнулася ў Мядзельскі суд. Аліменты за чэрвень павялічылі да 14 тысяч рублёў. За наступны месяц прапанавалі ўзяць яйкі і забраць іх самой. А Вольга – інвалід II групы. Потым "суцешылі" і сказалі, што за жнівень і верасень наогул нічога не атрымае, бо былы муж хварэў.

Неаднойчы ў розных установах у Вольгі Будзько патрабавалі даведку аб аліментах. Людзі не верылі, што такія аліменты малыя. Гаварылі, што сама такое напісала. З сацзабеспячэння нават запытанне ў гаспадарку рабілі. Адтуль прыходзіла такая ж даведка.

**Калі маладзечанка Вольга Будзько будзе браць аліменты яйкамі, як прапануе птушкафабрыка "Новая зара", то яек у кватэры будзе прыкладна столькі, колькі на гэтым здымку.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Сітуацыю каменціруе намеснік галоўнага бухгалтара "Новай зары" **Наталля Марач**:

— У нашай гаспадарцы няма грошай. Часта замест іх прапануем у лік зарплаты свініну, ялавічыну, яйкі. Цяпер выплачваем зарплату за ліпень. Усяго на фабрыцы працуе 480 чалавек. 20 з іх – аліментшчыкі. Сярэдні заробак па гаспадарцы 110 тысяч рублёў. У былога мужа Вольгі Будзько сярэдняя зарплата 53 тысячы рублёў. Сказаць можна адзінае – які работнік, такі і заробак. За жнівень яму налічылі 62 тысячы рублёў. Аліменты – 20 тысяч. За верасень – нічога, не здадзены бальнічны ліст. Вольга можа чакаць грошай. Як альтэрнатыву прапанавалі яйкі, можам даць кілбасу.

Некаторыя сельскія гаспадаркі не могуць выплаціць зарплату грашыма, і аліменты прапануюць узяць збожжам, яйкамі. І гэта ўжо тэндэнцыя.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ГРОШЫ

# Даўжнікоў у «Камунальніка» паменела

**МАЛАДЗЕЧНА. За апошні месяц 17 чалавек – хранічных даўжнікоў – расплаціліся за камунальныя паслугі.**

У спісе ўладальнікаў кватэр, якія не плацяць за камунальныя паслугі год і больш, было 71 прозвішча. Большасць кватэрператварылася ў прытоны. На паседжанні адміністрацыйнай камісіі гарвыканкома, якая адбылася ў кастрычніку, вырашылі высяляць неплацельшчыкаў. Аб гэтым папярэдзілі ўсіх. 17 сямей выратаваліся. Даўжнікі пералічылі ў "Камунальнік" каля 2-х мільёнаў рублёў. Па астатніх збіраюць дакументы для перадачы справы ў суд.

2 справы завяршыліся. 29 кастрычніка з кватэры па вуліцы Талстога суд выселіў жанчын К. і Л. без прадастаўлення жылля. Л., па дадзеных "Камунальніка", засталася ў горадзе і жыве ў знаёмых. К. паехала ў вёску. Кватэра засталася за сынам К. Сёння будзе яшчэ адзін суд над сям'ёй, што жыве па вуліцы Валынца. Сям'я М., якая жыве па Вялікім Гасцінцы, засталася ў сваёй кватэры. Да судовага паседжання яны выплацілі доўг і паабяцалі выправіцца.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ РЫНАК ПРАЦЫ

# Жадаючым даецца жыллё

Прапануем інфармацыю для тых, што шукае работу і згодны на пераезд у вёску. Гаспадаркі рэгіёна прапануюць запоўніць вакансіі. Жыллё таксама даецца.

| Гаспадаркі | Вакансіі | Кол.св. месцаў | Зарплата (тыс.руб.) | Жыллё |
|---|---|---|---|---|
| **Смаргонскі раён. Тэл. раённага цэнтра занятасці насельніцтва 3-22-39** | | | | |
| Калгас "Кастрычніцкі", | даяр | 2 | 80,0 | сельскі дом |
| в.Крэва, т.9-34-18 | механізатар | 6 | 90,0 | сельскі дом |
| | электрык | 1 | 60,0 | сельскі дом |
| | заг. гаспадаркі (фермы) | 1 | 75,0 | сельскі дом |
| | заг. аддзялення (участка) | 1 | 60,0 | сельскі дом |
| Калгас імя Леніна, | вартаўнік | 4 | 60,0 | сельскі дом |
| в.Залессе, т.9-21-10 | заг. майстэрні | 1 | 100,0 | сельскі дом |
| Калгас "Дружба народаў", | даяр | 1 | 60,0 | сельскі дом |
| в.Солы, т. 9-65-10 | жывёлаводы | 5 | 50,0 | сельскі дом |
| | пастухі | 3 | 40,0 | сельскі дом |
| Калгас "Кушляны", | жывёлаводы | 5 | 100,0 | сельскі дом |
| в.Кушляны, т. 9-54-10 | механізатары | 2 | 100,0 | сельскі дом |
| | гал. ветдоктар | 1 | 130,0 | сельскі дом |
| | гал. інжынер | 1 | 130,0 | сельскі дом |
| | гал. эканаміст | 1 | 130,0 | сельскі дом |
| | гал. энергетык | 1 | 130,0 | сельскі дом |
| | заатэхнік | 1 | 130,0 | сельскі дом |
| Калгас імя Дзяржынскага, | механізатары | 2 | 100,0 | сельскі дом |
| в.Сінькі, т. 9-26-10 | аператары маш. даення | 2 | 170,0 | сельскі дом |
| **Вілейскі раён. Тэл. раённага цэнтра занятасці насельніцтва 5-65-88** | | | | |
| Саўгас "Лукавец", | паляводы | 3 | ад | 3 кватэры, |
| в.Лукавец, т.4-03-10 | электрык | 1 | пра- | 1 дом |
| | токар | 1 | дукцыі | |
| | зваршчык | 1 | | |
| | вадзіцелі | 4 | | |
| | трактарысты | 6 | | |
| | жывёлаводы | 10 | | |
| | слесар | 1 | | |
| Калгас "Чырвоны Сцяг", | трактарысты | 6 | ад пра- | 3 кватэры |
| в.Журыхі, т. 7-41-34 | вадзіцелі | 4 | дукцыі | |
| | жывёлаводы | 4 | | |
| Калгас "Ленінскі камсамол", | даяркі | 3 | ад пра- | жылыя |
| в.Балашы, т. 6-11-32 | гал. інжынер | 1 | дукцыі | дамы |
| | гал. бухгалтар | 1 | | |
| | механізатары | 5 | | |
| Калгас "Вілейскі", | трактарысты | 3 | ад пра- | сельскія |
| в.Куранец, т. 4-62-41 | заатэхнік | 1 | дукцыі | дамы |
| | брыгадзір палявод. брыгады | 1 | | |
| | аграном-насеннявод | 1 | | |
| Саўгас "Беларускі", | трактарысты | 2 | ад пра- | 3-пак. |
| в.Людвінова, т. 6-34-24 | (К-700) | | дукцыі | кв. |
| Калгас "За мір", | гал. аграном | 1 | ад пра- | 1 кватэра, |
| в.Забалоцце, т. 4-12-42 | брыгадзір паляводства | 1 | дукцыі | 1 дом |
| | аграном-насеннявод | 1 | | |
| Калгас "Рассвет", | газаэлектра- | 1 | ад пра- | 3-пак.кв. |
| в.Іжа, т.4-46-89 | зваршчык | | дукцыі | |
| Калгас "Вязынь", | прараб | 1 | ад пра- | сельскія |
| в.Вязынь, т. 6-63-22 | даяркі | 3 | дукцыі | дамы |
| Калгас "Зара", | інжынеры | 2 | ад пра- | катэджы |
| в.Ерхі, т.7-43-33 | гал. інжынер | 1 | дукцыі | прысядз. тыпу |
| **Мядзельскі раён. Тэл. раённага цэнтра занятасці насельніцтва 5-48-42** | | | | |
| ПХС "Дзягілі", | інж.-энергетык | 1 | 120,0 | дом |
| т.36-5-41 | электрык | 1 | 70,0 | прысядз. |
| | гал. інжынер | 1 | 120,0 | тыпу |
| Калгас "Шлях | заатэхнік-селекцыянер | 1 | | дом |
| да камунізму", т. 36-1-08 | загадчык фермы | 1 | | прысядз. |
| | ветфельчар | 1 | | тыпу |
| | гал. аграном | 1 | | |
| Калгас імя Кірава, | гал. інжынер | 1 | | дом |
| т. 36-7-31 | гал. бухгалтар | 1 | | прысядз. |
| | гал. заатэхнік | 1 | | тыпу |
| | інж.-электрык | 1 | | |
| | каваль | 1 | | |
| | газаэлектразваршчык | 1 | | |
| | інжынер па ТП | 1 | | |
| | інж. па ахове працы | 1 | | |
| | інж. па эксплуат. МТП | 1 | | |
| | даяркі | 4 | | |
| | даглядчыкі жывёлы | 2 | | |
| Калгас "Пераможца", | каваль | 1 | 90,0 | дом прысядз. |
| т. 38-7-31, 38-7-32 | трактарысты | 4 | 120,0 | тыпу |
| Калгас "Прыазёрны", | гал.бухгалтар | 1 | 150,0 | дом |
| т.46-3-85 | заг. майстэрняў | 1 | 100,0 | прысядз. |
| | брыгадзіры паляводчай брыгады | 2 | 100,0 | тыпу |
| | токар | 1 | здзельная | |
| | каваль | 1 | здзельная | |
| | трактарысты | 2 | здзельная | |
| Мядзельскае раённае | доктар-хірург | 2 | | ёсць |
| тэрытарыяльнае мед. | доктар-тэрапеўт | 4 | | жыллё |
| аб'яднанне, т. 59-3-05 | доктар-педыятр | 3 | | |
| | доктар-рэаніматолаг | 2 | | |
| | доктар-рэнтгенолаг | 2 | | |
| | фельчар | 7 | | |
| Калгас "Будслаўскі", | гал.ветдоктар | 1 | | ёсць |
| т.31-3-10 | ветфельчар | 1 | | жыллё |
| | прараб | 1 | | |
| Калгас "Ленінскі шлях", | інжынер | 1 | 87,0 | ёсць |
| т.32-1-30 | ветфельчар | 1 | 50,0 | жыллё |
| | даяркі | 2 | 100,0 | |
| | трактарысты | 2 | 80,0 | |
| | электрык-энергетык | 1 | 87,0 | |
| Калгас "Свір", | даярка | 1 | | ёсць |
| т.4-26-52 | даглядчык жывёлы-пастух | 1 | | жыллё |
| СПК "Брусы", | аператары | 3 | 120,0 | ёсць |
| т.3-84-63 | мыйшчык секцый для жывёлы | 1 | 150,0 | жыллё |

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Гісторыя фотакарткі з Княгініна

**У фондах Мінскага абласнога музея ў Маладзечне ў адным канверце знаходзіцца фотакартка, пра якую будзе ісці гутарка, і матэрыял, апублікаваны ў газеце «Нарачанская зара» чвэрць стагоддзя таму. Аўтар яго наш сённяшні пазаштатны карэспандэнт Міхась Чарняўскі. Чаму публікацыя «раёнкі» трапіла ў фонды абласнога музея? Учытаемся ў дакумент, угледзімся ў здымак.**

38 гадоў прайшло з таго часу, як быў зроблены гэты здымак. Яго адшукалі ў вёсцы Княгінін юныя краязнаўцы. Знаходкай зацікавіўся старшыня выканкома Княгінінскага сельскага Савета народных дэпутатаў У.Б.Шуман і паведаміў у рэдакцыю:

— Даваенны здымак знойдзены ў Княгініне. Сфатаграфаваны мітынг жыхароў вёскі 7 лістапада 1939 года. Прыязджайце, будзем разам шукаць удзельнікаў Кастрычніцкага свята, якое ўпершыню адзначалася свабодна і адкрыта.

У школе нам параілі сустрэцца з пенсіянерам Васілём Яфімавічам Лысенкам, які да вайны і пасля працаваў інструктарам Крывіцкага райкома партыі.

**В.Я.ЛЫСЕНКА:**

— На працу ў Крывічы я быў накіраваны 1 студзеня 1940 года, так што на мітынгу ў Княгініне ў 1939 годзе не прысутнічаў. Хачу толькі сказаць, што энтузіязм людзей, іх жаданне больш ведаць пра Краіну Саветаў былі вялікімі.

Вам бы адшукаць былога старшыню сельсавета Антановіча, актывіста Савецкай улады Клімовіча. Яны падрабязна расказалі б пра гісторыю здымка.

Накіроўваючыся ў цэнтр вёскі, мы вырашылі заглянуць па дарозе на хлебапрыёмны пункт. У канторы паказалі здымак. Узяла яго ў рукі касір Галіна Пятроўна Дземідовіч. Прыгледзелася пільна.

**Г.П.ДЗЕМІДОВІЧ:**

— Тут ёсць мой бацька! Мой бацька Пётр Ягоравіч быў малазямельным селянінам у вёсцы Кусі. Калі ў 1939 годзе прыйшла Чырвоная Армія, ён далучыўся да актыўнага грамадскага жыцця, быў выбраны ў часовы камітэт, дапамагаў наводзіць парадак, выкрываць тых, хто шкодзіў Савецкай уладзе. Бацька быў першым старшынёй калгаса, які арганізаваў у нашай вёсцы ў 1949 годзе.

На мітынгу ён стаіць, бачыце, у першай шарэнзе, уступіўшы месца маленькай дзяўчынцы. А на самым ганку жыхар вёскі Княгінін Мікалай Ігнатавіч Клімовіч.

Не цяжка было адшукаць гэтага чалавека. Ён ураджэнец гэтай вёскі, за плячыма багата жыццёвых шляхоў, поўны розных радасных і трывожных падзей. Адшукалі мы яго ў дачкі – настаўніцы Веры Мікалаеўны. Падцягнуты, чыста выбрыты і акуратна апрануты мужчына чытаў пісьмы і разглядваў толькі што прысланы з Масквы здымак сына Анатоля, выпускніка акадэміі, дачкі Ірыны з горада Феадосія, дзе працуе лектарам у гаркоме партыі.

Даведаўшыся, што прывяло да яго супрацоўнікаў рэдакцыі і старшыню сельсавета, пачаў свой расказ.

**М.І.КЛІМОВІЧ:**

Цікавіцеся наконт гэтага здымка? Добра памятаю той дзень, калі гэта было. Але перш раскажу коратка пра сябе. Нялёгка мне і ўсім сялянам жылося пры буржуазна-памешчыцкай Польшчы. Людзі аб'ядноўваліся, каб сумесна весці барацьбу за лепшую долю. Уступіў і я ў Беларускую рабоча-сялянскую Грамаду. Пілсудчыкі яе разагналі. Многіх арыштавалі, судзілі. Мяне пазбавілі грамадзянскіх і палітычных правоў. Калі пачалася вайна Польшчы з Германіяй, мяне завезлі ў цэнтр Польшчы і прымусілі там працаваць на памешчыка.

Пасля 17 верасня 1939 года я прыбыў у родныя мясціны. Тут пачала ствараецца рабочая гвардыя па ахове парадку. Я ўзначаліў яе. Вось тады і задумалі правесці мітынг на чыгуначнай станцыі Княгінін у гонар 22-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Каго пазнаю на здымку? Пятра Ягоравіча Дземідовіча, Івана Іпалітавіча Антановіча. А гэта стаіць з чырвонай павязкай на рукаве і трымае транспарант Пётр Дзмітрыевіч Ясюкевіч. Яго ў першыя дні гітлераўцы арыштавалі, здзекаваліся. Ясюкевічу ўдалося вырвацца з засценка, але паліцэйскія высачылі патрыёта і расстралялі.

Свой здымак я яшчэ ў 1940 годзе пасылаў брату ў Маскоўскую вобласць. А гэтыя краязнаўцы з Княгінінскай школы знайшлі ў маёй суседкі Яўгеніі Усцінаўны Антановіч. Пойдзем да яе і працягнем размову.

**Я.У.АНТАНОВІЧ:**

— На мітынгу, прысвечаным Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, які адбыўся ў Княгініне ў 1939 годзе, я таксама прысутнічала. Мясцовы фатограф Віталь Андрэевіч Бурмейстар зрабіў некалькі здымкаў. Хаця і не трапіла ў аб'ектыў, аднак папрасіла даць здымак на памяць. Праз усю вайну хавала у патаемным месцы, каб не трапіў у рукі фашыстам. На мітынгу быў дзевяціцігадовы сын Іосіф. Вядома, памятае тыя далёкія падзеі. Сёння ён міністр Беларускай ССР. Другі сын Аляксандр – дырэктар сярэдняй школы ў Гродзенскай вобласці.

**М.І.КЛІМОВІЧ:**

— Я раней нават і не марыў, што ўсе мае трое дзяцей атрымаюць вышэйшую адукацыю. Гэта ўсё стала магчымым пры Савецкай уладзе, якую шчыра віталі ў 1939 годзе. А такіх прыкладаў нямала. Трое дзяцей актыўнага ўдзельніка Беларускай рабоча-сялянскай Грамады Аляксандра Паўлавіча Антановіча таксама з вышэйшай адукацыяй.

Радуюцца за лёс дзяцей суседзі Мікалай Аляксеевіч і Марыя Сямёнаўна Варпаховічы. Дачка – урач, сын — інжынер грамадзянскай авіяцыі. Зяць і нявестка таксама з вышэйшай адукацыяй. Жыхары вёскі Княгінін жывуць заможна, культурна, дастатак прыйшоў у дамы хлебаробаў, сельскай інтэлігенцыі.

Наведалі мы пажылога селяніна Віталя Андрэевіча Бурмейстра, які жыве на ўскраіне Княгініна. Ён добра памятае падзеі 1939 года. Сустрэў яго ў тыя дні Мікалай Ігнатавіч Клімовіч і прапанаваў прыйсці з фотаапаратам на мітынг. Згадзіўся.

За час акупацыі яму давялося знішчыць усе негатывы, каб не трапілі ў рукі ворага і па іх не маглі пазнаць актывістаў Савецкай улады. Цудам захаваўся адзін негатыў (але і той моцна пашкоджаны), на якім сфатаграфавана пасяджэнне Княгінінскай выбарчай камісіі ў час выбараў у перадваенны час.

**М.ЧАРНЯЎСКІ, газета "Нарачанская зара" ад 7 лістапада 1977 г.**



**7 лістапада 1939 года. Мітынг на прыступках Княгінінскага вакзала.**
Фота Віталя Бурмейстра, фонды Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

# Вілейшчына вачыма напалеонаўскага мастака

**Больш за 190 год таму 22 чэрвеня 1812 года Напалеон са сваёй пакуль што непераможнай Вялікай арміяй фарсіраваў Нёман і ступіў на зямлю Расійскай імперыі. Пачалася руска-французская вайна 1812 года.**

На Вілейшчыне ўпэўнена прайшоўся 4-ы корпус таго войска пад камандаваннем віцэ-караля Італіі Яўгенія Багарнэ. Разам з яго штабам пастаянна знаходзіўся і мастак прынца Альбрэхт Адам.

Адам нарадзіўся ў Германіі. Бацька заўважыў у сыне схільнасць да малявання. Здольны юнак стаў прафесійным мастаком. Пішучы шмат партрэтаў напалеонаўскіх генералаў, дыпламатаў і дзяржаўных дзеячаў, Альбрэхт хутка набыў папулярнасць. Яго работы былі адметныя лёгкасцю выканання, прастатой формаў, абсалютным і прыемным падабенствам. Мастака пачалі запрашаць і на больш маштабныя работы. Летам 1809 года выконваў іх пры Ваграмскай бітве. Неўзабаве атрымаў запрашэнне самога Яўгена Багарнэ і стаў прыдворным жывапісцам у сваё 23 гады.

Адаму ўдалося быць удзельнікам многіх баталій вайны 1812 года, у тым ліку і Барадзінскай, там ён зрабіў неабходныя замалёўкі. У час паходу ён захварэў, атрымаў права на адпачынак і ў пачатку кастрычніка назаўсёды пакінуў Расію. Толькі на радзіме мастак даведаўся пра бясслаўны фінал авантуры Вялікага імператара.

Дзякуючы той экспедыцыі А. Адама мы можам уявіць рэальнасць абставін і дух таго часу.

Сам мастак так пісаў пра сваю далейшую працу: "1815-1825 гг. Нароўні з іншымі работамі выканаў я для прынца Яўгена па сабраных у Расіі малюнках нешта накшталт жывапіснага дзённіка – альбом успамінаў пра рускую вайну – 83 адлюстраванні на паперы".

Пазней сын Я. Багарнэ, герцаг Максіміліян Лейхэнбергскі, ажаніўся з дачкой Мікалая І, княгіняй Марыяй Мікалаеўнай. Такім чынам, "Альбом" аказаўся ў Расіі, а затым і ў Эрмітажы. Пад №29 у "Альбоме" змешчаная карціна пад назвай "Галоўная кватэра ў Вілейцы 16 ліпеня 1812 года". Італьянскія войскі абралі месцам пастою камандуючага корпуса дабротную гаспадарчую пабудову на высокім беразе Віліі.

На наступны дзень Багарнэ заначаваў у Даўгінаве, а ў паходнай папцы Адама з'явіўся чарговы малюнак з відам старажытнага мястэчка.

Далейшы шлях італьянцаў пралягаў праз Докшыцы на Маскву.

**Анатоль РОГАЧ, Вілейка.**



**Карціна Альбрэхта Адама «Галоўная кватэра ў Вілейцы 16 ліпеня 1812 года».**



**Карціна Альбрэхта Адама «Галоўная кватэра ў мястэчку Даўгінава 17 ліпеня 1812 года».**

## Вілейка

**Вілейка ў 1812 годзе была павятовым горадам у Мінскай губерні. Вось што пісаў відавочца падзей 1812-га года афіцэр італьянскай арміі Лаж'е у сваіх дзённіках: "Мы прыйшлі ў Вілейку па вельмі пясчанай дарозе, якая ішла праз агромністы лес. Рускія, імкнучыся хутчэй адсюль сысці, кінулі тут нейкія свае прыпасы. Віцэ-кароль падвойвае сваю пільнасць, асцерагаючыся, каб непрыяцель, які знаходзіцца паблізу, неспадзеўкі не напаў на нас. Таму мы асабліва асцярожныя ў выбары пазіцый на ноч". На беразе рэчкі – гаспадарчая пабудова, занятая галоўнай кватэрай (штабам), на караўле гвардзейскія грэнадзёры, побач абозныя фуры, драгуны італьянскай гвардыі, армейскі конны егер.**

## Даўгінава

**Даўгінава ў 1812 годзе было павятовым мястэчкам Вілейскага павета Мінскай губерні. 42 вярсты ад Вілейкі. Злева – дом, заняты галоўнай кватэрай (штабам), на караўле – грэнадзёры італьянскай пешай гвардыі, справа – абозная фура. Удалечыні відаць царква.**

# Вёска пасля вызвалення.

## Большасць зямлі Вілейскай, а затым Маладзечанскай, вобласці нават пасля аднаўлення даваенных калгасаў і саўгасаў належала па-ранейшым аднаасобнікам

**Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў перад уладамі паўстала задача ўзнаўлення разбуранай вайной народнай гаспадаркі ў цэлым і сельскай гаспадаркі як яе састаўной часткі.**



Калгаснае жыццё нават пасля дзесятка пасляваенных гадоў не было лёгкім. Партыяй дэкларавалася роўнасць паміж рабочымі, сялянамі і інтэлігенцыяй, але сялянам, цяпер ужо скрозь калгаснікам або рабочым саўгасаў, ніхто не зайздросціў. Праца заставалася цяжкой і прымітыўнай. Фота Міхаіла Асаевіча

Ужо 26 ліпеня 1944 года Вілейскі абласны Савет дэпутатаў працоўных і Вілейскі абком КП(б)Б прымаюць пастанову "Аб узнаўленні калгасаў". У сваёй даведцы аб выкананні дадзенай пастановы сакратар Вілейскага абкома КП(б)Б Клімаў адзначае:

"У некаторых раёнах вобласці праяўляецца яўная нерашучасць і пасіўнасць ў выкананні пастановы. У выніку гэтага ўпускаецца важны перыяд узнаўлення калгасаў, перыяд, калі маецца магчымасць аказаць эканамічную дапамогу ўзнаўляемым калгасам перадачай непрыдатных і нямецкіх пасеваў, коней, транспартных сродкаў і інш., а таксама ўпускаецца перыяд падрыхтоўкі калгасаў да правядзення азімай сяўбы.

Толькі няведанне сапраўдных памкненняў калгаснікаў і зусім недавальняючая пастаноўка палітмасавай работы з насельніцтвам, самаадхіленасць некаторых сакратароў РК КП(б)Б ад удзелу ва ўзнаўленні калгасаў (не ўсе сакратары РК КП(б)Б да цяперашняга часу пабывалі асабіста ва ўсіх калгасах) прыводзіць некаторых кіруючых работнікаў раёна да думкі аб тым, што нібы калгаснікі не жадаюць узнаўляць калгасы, а сяляне-аднаасобнікі не жадаюць уступаць у калгасы. Факты сведчаць аб зваротным. У Браслаўскім раёне ў населеным пункце Завер'е калгаснікі самастойна, без садзеяння раённых арганізацый, і нават без іх ведама, узнавілі калгас.

Падобныя факты не адзінкавыя. У тых раёнах, у якіх раённыя арганізацыі пачалі работу па ўзнаўленні калгасаў і праводзяць яе сур'ёзна, маюцца станоўчыя вынікі. У Мядзельскім раёне 1 жніўня з удзелам старшыні выканкома райсавета дэпутатаў працоўных тав. Падалец у в.Місуны ўзноўлены калгас імя Парыжскай камуны ў складзе 29 гаспадарак. Пасля гэтага ў калгас уступіла 17 гаспадарак аднаасобнікаў. Такім чынам, калгас аб'ядноўвае цяпер 45 сялянскіх гаспадарак з 50, што ёсць у вёсцы.

У Глыбоцкім раёне ўзноўлены 4 і арганізаваны 2 новыя калгасы, у Плісім раёне ўзноўлены 4 і арганізаваны 1 калгас, у Радашкавіцкім раёне ўзноўлены 3 калгасы і г.д. Зыходзячы з вышэйзгаданага, абком КП(б)Б прапануе: максімальна ўзмацніць работу па ўзнаўленні калгасаў, арганізацыйным і гаспадарчым іх замацаванні. Асаблівую ўвагу належыць звярнуць на арганізацыю працы ў калгасе, наладжванне калгаснага ўліку і справаводства.

Для правядзення работы па ўзнаўленні калгасаў адкамандзіруйце ў сельсаветы раённы партыйны і савецкі актыў. Завастрыце ўвагу камандзіруемых на іх адказнасці ў выкананні даручанай справы. У тых выпадках, калі ўборка азімых на калгасных землях праведзена калгаснікамі раздзельна і гэта стварае цяжкасці ў абагульненні пасеваў, раім не праводзіць абагульнення пасеваў, а прыняць меры да неадкладнай засыпкі насення ў насенны і страхавы фонды калгаса, адпаведна засеянай плошчы кожным калгаснікам з разліку поўнага забеспячэння калгасаў насеннем. Для аказання дапамогі ўзнаўляемым калгасам у цяглавай сіле, перадайце коней, прынятых ад партызанскіх атрадаў і брыгад.

Усю работу па ўзнаўленні калгасаў праводзіце на аснове глыбокай партыйна-палітычнай работы з насельніцтвам. Кожную пяцідзёнку інфармуйце абком КП(б)Б аб ходзе работ па ўзнаўленні калгасаў і іх арганізацыйна-гаспадарчым замацаванні".

### З даваенным старшынёй

**Адзін з першых калгасаў, узноўленых адразу пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, быў калгас імя Сталіна Хажоўскага сельсавета Маладзечанскага раёна. Прывядзём першы пратакол агульнага сходу грамадзян Хажова гэтага ж сельскага Савета Маладзечанскага раёна ад 30 ліпеня 1944 года:**

"Павестка дня

Арганізацыя калгаса.

Выбар праўлення калгаса і рэвізійнай камісіі.

Слухалі: Па пытанні аб арганізацыі калгаса даклад

Пастанавілі: Заслухаўшы даклад, агульны сход пастанавіў калгас арганізаваць і даць яму імя "Імя Сталіна".

Слухалі: Выбары праўлення калгаса і рэвізійнай камісіі.

Пастанавілі: Агульны сход пастанавіў праўленне калгаса і рэвізійную камісію выбраць з 3 членаў. У праўленне калгаса большасцю галасоў выбраны: Бурачонак Васіль Георгіевіч, аднагалосна, старшынёй калгаса. Члены праўлення – Ліпчынскі Іван Пятровіч і Радкевіч Хрысціян Казіміравіч. Старшынёй рэвізійнай камісіі выбраны Свяцкі Іван".

Варта адзначыць і той факт, што старшынёй ўзноўленага калгаса быў зноў выбраны Бурачонак Васіль Георгіевіч, перцы даваенны старшыня.

**Першым узноўленым калгасам Ільянскага раёна быў калгас "1 Мая" Альковіцкага сельскага Савета. Пратакол №1 агульнага сходу калгаснікаў датаваны 10 жніўня 1944 года:**

"Павестка дня

Аб узнаўленні калгаса, разбуранага пры акупацыі нямецкімі захопнікамі.

Аб выбранні кіраўніцтва калгаса (праўлення калгаса, рэв.камісіі, брыгадзіраў і іншых).

Слухалі аб узнаўленні калгаса. Дакладчык тав.Сакалоў.

Пастанавілі: узнавіць разбураны нямецкімі захопнікамі калгас, які немцы ператварылі ў памешчыцкі маёнтак, а калгаснікаў хацелі ператварыць у рабоў. Ператварылі нашу квітнеючую гаспадарку ў папялішча і груды руін, а многіх калгаснікаў угналі на катаргу ў Германію. Такім чынам, пасля іх гаспадарання не засталося ні жывёлы, ні інвентару, ні пабудоў, ні ўраджаю. Мы, калгаснікі, што засталіся ў жывых, дачакаліся свайго вызвалення ад нямецкіх варвараў, дзякуючы клопатам нашых партыі і ўрада ў асобе нашага любімага бацькі і настаўніка, Галоўнакамандуючага, Маршала Савецкага Саюза тав. Сталіна, кіраўніка нашай доблеснай геранчай Чырвонай Арміі, вызвалілі нас ад нямецкага рабства. Мы, калгаснікі і калгасніцы, прыкладзём усе свае намаганні для ўзнаўлення нашай разбуранай гаспадаркі. Прыкладзём усе намаганні і старанні, каб наша Чырвоная Армія была забяспечана харчаваннем, а наша прамысловасць – сыравінай. Для поўнай перамогі над ворагам. Прасіць райвыканком Райсавета аказаць нам арганізацыйную і матэрыяльную дапамогу для ўзнаўлення нашага калгаса.

Слухалі: Аб выбранні праўлення калгаса.

Пастанавілі: выбраць праўленне калгаса з 5 чалавек у складзе старшыні калгаса Гушчы Антона, Філіповіча Юльяна, Царыка Іосіфа, Ляўданскага Віктара, Мацкевіча Уладзіміра.

Слухалі: Аб выбранні брыгадзіра і рахункавода.

Пастанавілі: выбраць брыгадзірам паляводчай брыгады і рахункаводам Царыка Іосіфа".

### Працэдура ўступлення

Працэдура арганізацыі калгаса была такая: першапачаткова сяляне пісалі заяву аб уступленні ў калгас. Для прыкладу прывядзём 3 такія заявы:

"Хажова, дня 29.VII.1944

Да гр.Старшыні Хажоўскага с/сав.

Ад Камінскага Рамана Раманавіча з май.Хажова

Заяўленне

У сувязі з арганізацыяй калгаса ў Хажове прашу прыняць мяне ў калгасную сям'ю.

+ + + За непісьменнага Камінскага Рам."

"Заявленне

Жукоўскі Станіслаў

Жалае вступіць в калхоз імі.Сталін.

30.VII.1944г."

"Правлению колхоза "Имени Сталина" Хожевского сельсовета

от грки дер.Вязовец Хожевского с/совета Зайка Христины Доминиковны

**На жаль, няма магчымасці прывесці акты абагульнення маёмасці і ведамасці, па якіх браліся ўступныя ўзносы за 1944-1945 гады. Аднак, для прыкладу, мы можам прывесці падобныя дакументы за 1948 год.**

### «Акт №4 на абагульненне маёмасці

Згодна з пастановай агульнага сходу членаў калгаса №1 ад 4 снежня 1948 года абагульнена маёмасці члена калгаса імя Кірава (Хоўхлаўскага с/с Маладзечанскага раёна) Кабана Аркадзя Адамавіча.

| Назва маёмасці і кароткае апісанне | Колькасць | Сума |
|---|---|---|
| 1.Жарабец "Беркут" гняды 6 год | 1 | 450 |
| 2. Плуг адзіночны стары | 1 | 25 |
| 3. Барана драўляная сярэдняя | 1 | 20 |
| 4. Кола жалезнае ход сярэдняе | 1 | 35 |
| 5. Хамут ездавы і вупраж старыя | | 20 |
| 6.Хамут рабочы сярэдні | | 20 |
| 7. Акучнік стары | | 15 |
| 8. Сані падкаваныя сярэднія | | 30 |
| 9. Малацілка драўляная | | 90 |
| 10. Веялка старая | | 90 |
| 11. Саломарэзка сярэдняя | | неразборліва |
| 12. Гумно даўжынёй 14 м шырынёй 8 м | | 350 |
| Разам | | 1200 |
| Паявыя ўзносы | | 600 |
| Непадзельны ўзнос | | 600" |

# Зноў запісваемся ў калгасы!

Заявление

Прошу Правление к-за Имени Сталина принять меня в члены колхоза Имени Сталина, всю возлагаемую работу буду выполнять честно и аккуратно.

Просительница Зайка"

Пасля падачы заявы аб уступленні ў калгас неабходна было заплаціць уступны ўзнос і абагульніць маёмасць: гаспадарчыя пабудовы, сельскагаспадарчы інвентар, коней. Бывала, асабліва руплівыя чыноўнікі, патрабавалі абагульняць нават кароў і свіней.

"Акт №21 на абагульненне маёмасці

Згодна з пастановай агульнага сходу членаў калгаса №1 ад 4 снежня 1948 года абагульнена маёмасці члена калгаса імя Кірава (Хоўхлаўскага с/с Маладзечанскага раёна) Сідарэвіч Сцепаніды

Назва маёмасці і кароткі змест

Колы старыя др. ход

Непадзельны фонд 10 руб.

Паевыя ўзносы 30 руб."

**Выпіска з пратакола №1 агульнага сходу калгаснікаў калгаса імя Кірава Хоўхлаўскага сельсавета Маладзечанскага раёна ад 3 сакавіка 1949 г.:**

"Пастанавілі: уступныя ўзносы зацвердзіць згодна са спісам.

1. Пашкоўская Паўліна .......... 20 руб.
2. Трацэўскі Аляксандр Іос. .......... 20 руб.
3. Жураговіч Ксенія Мікал. .......... 20 руб.
4. Гарановіч Кацярына Антонаўна .......... 25 руб.
5. Гарановіч Рыгор Іванавіч .......... 25 руб.
6. Гарановіч Іосіф Сідаравіч .......... 25 руб. (ці 20, неразборліва)
7. Бабёр Іван Аляксандравіч .......... 35 руб.
8. Кабан Аркадзь Адамавіч .......... 40 руб.
9. Сідаровіч Сцяпан Канстант. .......... 20 руб. (ці 25, неразборліва)
10. Більдзюк Яўданія Емяльянаўна .......... 25 руб.
11. Бажко Вольга Сямёнаўна .......... 20 руб.
12. Куралovіч Аляксандр Сідаравіч .......... 40 руб.
13 Сянько Васіль Антонавіч .......... 40 руб.
14. Новік Іван Андрэевіч .......... 40 руб.
15. Чапурок Марыя Андрэеўна .......... 25 руб.
16. Чапурок Васіль Феафанавіч .......... 25 руб.
17. Бандарык Міхаіл Іванавіч .......... 30 руб.
18. Бандарык Соф'я Пятроўна .......... 20 руб.
19. Гарановіч Сцепаніда Паўлаўна .......... 20 руб.
20. Бандарык Міхаіл Ігнатавіч .......... 40 руб.
21. Бандарык Віталь Ігнатавіч .......... 40 руб.
22. Шумейка Андрэй Людвігавіч .......... 30 руб."

**Падрабязна аб колькасці ўзноўленых ў вобласці калгасаў і аб зямлі, якая ім належала, расказана ў справаздачы аб размеркаванні зямлі па угоддзях і землекарыстальніках Упраўлення землеўпарадкавання і севазваротаў Маладзечанскага аблвыканкома:**

| "Назва калгаса | Колькасць калгасаў | У іх гаспадарак | Колькасць зямлі (га) | У тым ліку ворыва |
|---|---|---|---|---|
| Валожынскі | 2 | 83 | 1191 | 629 |
| Іўеўскі | 3 | 53 | 914 | 556 |
| Ільянскі | 2 | 51 | 557 | 355 |
| Крывіцкі | - | - | - | - |
| Куранецкі | 1 | 6 | 180 | 111 |
| Маладзечанскі | 1 | 19 | 326 | 210 |
| Мядзельскі | 1 | 49 | 370 | 182 |
| Астравецкі | 3 | 68 | 721 | 417 |
| Ашмянскі | 1 | 20 | 286 | 159 |
| Пастаўскі | 3 | 45 | 782 | 407 |
| Радашкавіцкі | 5 | 83 | 1179 | 798 |
| Свірскі | - | - | - | - |
| Смаргонскі | 4 | 58 | 1119 | 618 |
| Юрацішкаўскі | - | - | - | - |
| Па вобласці | 26 | 535 | 7625 | 1442" |

**Па стану на 1 лістапада 1944 года ў вобласці было таксама ўзноўлена 6 даваенных саўгасаў на 7498 га зямлі, у тым ліку 2960 га раллі.**
**Але асноўная колькасць зямлі – 758083 га — належала ўсё-такі 121041 гаспадарцы аднаасобнікаў (звесткі ўзятыя з той жа справаздачы).**

Прывядзём табліцу размеркавання зямлі ў гаспадарках аднаасобнікаў па раёнах Маладзечанскай вобласці:

| Раён | Калгасаў | Пл.зямлі ўга | У т.л. ворыва |
|---|---|---|---|
| Валожынскі | 10301 | 60493 | 29705 |
| Іўеўскі | 7158 | 43266 | 24083 |
| Ільянскі | 5510 | 26969 | 12948 |
| Крывіцкі | 7634 | 50900 | 25494 |
| Куранецкі | 7897 | 54156 | 24505 |
| Маладзечанскі | 8289 | 37809 | 18095 |
| Мядзельскі | 6995 | 45355 | 20471 |
| Астравецкі | 8591 | 52805 | 32631 |
| Ашмянскі | 12128 | 64868 | 42051 |
| Пастаўскі | 10338 | 77155 | 38810 |
| Радашкавіцкі | 8670 | 46180 | 31756 |
| Свірскі | 8346 | 63299 | 33064 |
| Смаргонскі | 11525 | 79520 | 23698 |
| Юрацішкаўскі | 7659 | 55308 | 23698 |
| Па вобласці | 121041 | 758083 | 399986 |

Але вернемся ў 1944 год. Усяго ў Маладзечанскай вобласці па стану на 1 лістапада 1944 года было ўзноўлена 26 калгасаў, якія аб'ядноўвалі 535 гаспадарак і 7625 га зямлі.

## Пратаколы сведчаць аб энтузіязме

У 1944 годзе калгасы займаліся арганізацыйнымі пытаннямі, абагульненнем маёмасці, падрыхтоўкай да веснавой сяўбы і інш. Аб тым, якія праблемы стаялі ў гэты час перад калгасамі, даюць уяўленне пратаколы агульных сходаў калгаснікаў. Выпіскі з некаторых мы хочам прывесці:

"Пратакол

агульнага сходу калгаснікаў калгаса "Імя Сталіна" Хажоўскага сельсавета (Маладзечанскага раёна) ад 15 лістапада 1944 года.

Прысутнічала 17 чалавек.

Старшыня сходу – Бурачонак В.Г.

Сакратар – Есіповіч А.

Павестка дня.

1. Аб дысцыпліне ў калгасе.

2. Рознае.

1. Слухалі па пытанні аб дысцыпліне. Дакладчык тав. Бурачонак.

У сваім дакладзе тав.Бурачонак гаворыць, што за ўвесь час існавання калгаса з 1 VII-44 г. мы ладзім толькі першы сход, а гэта толькі таму, што ў сувязі з недахопам рабочых сіл, а работы было вельмі многа, і работа праводзілася даволі-такі добра, але ў апошні час няма дысцыпліны, асабліва пры капанні бульбы, слабы выхад на работу ці несвоечасовы ўход з работы.

Судакладчык тав.Карташэвіч – аграном Райзо: у сваіх словах тав.Карташэвіч выказаўся, што ў калгасе неабходна працаваць як можна лепш, для таго, каб калгас быў мацнейшым, і калі будзем працаваць добра, то і калгас будзе добры, і Дзяржаве будзе карысць, што дапаможа хутчэй закончыць вайну. Кожны калгаснік, за якой бы работай ні быў замацаваны, ён павінны яе выконваць дакладна і акуратна..."

"Пратакол №2

Агульнага сходу к-(алгасні-)каў к-(алга)са 1-е Мая ад 10/XI.44 г.

Прысутнічала 23 чалавекі

Павестка дня:

1.Аб зацвярджэнні плана яравой сяўбы на 1945 г. і засыпцы насення.

Слухалі: План яравой сяўбы на 1945 г. і засыпцы насення, распрацаваны праўленнем калгаса сумесна са ст.аграномам Райзо ў памеры 136 га.

Пастанавілі: Зацвердзіць дадзены план яравой сяўбы і засыпкі насення на 1945 год. Улічваючы, што калгас вельмі пацярпеў у час акупацыі ад нямецкіх захопнікаў і калгасу не хапае шмат насення, арганізаваць абагульненне насення за кошт калгаснікаў з аднаасобна ўбранага ім ўраджаю, даручыць праўленню калгаса размер абагульнення праводзіць, улічваючы магутнасць гаспадаркі калгасніка.

Даручыць праўленню калгаса правесці абмен прадуктовага збожжа на яравое насенне і прыступіць да яго ачысткі, падабраўшы адпаведнае памяшканне для захоўвання.

Старшыня подпіс Гушча

Сакратар подпіс Гурновіч"

## Замест коней працавалі і каровы

Аб тым, якім цяжкім быў матэрыяльны стан першых калгасаў вобласці, расказвае наступны дакумент: рашэнне Маладзечанскага аблвыканкома №173 (пратакол №8 ад 28.03.45 г.) "Аб выкарыстанні на сельгасработах малапрадуктыўных кароў калгаснікаў і калгасаў".

Выканком Аблсавета Дэпутатаў Працоўных вырашыў:

1. Рэкамендаваць калгасам пры недахопе цяглавай сілы выкарыстоўваць на лёгкіх палявых і транспартных работах малапрадуктыўных кароў калгасаў і калгаснікаў, забяспечыць клапатлівы догляд кароў. На выдзеленых каровах калгаснікаў павінны, як правіла, працаваць калгаснікі, якім належаць гэтыя каровы.

Пры выкарыстанні на палявых і транспартных работах кароў калгаснікаў, забяспечыць выдзяленне неабходнай колькасці грубых кармоў для гэтых кароў.

2. Прапанаваць Райвыканкомам і Райзо:

а). Даручыць старшыням калгасаў неадкладна арганізаваць прывучэнне да работ малапрадуктыўных кароў.

б). Арганізаваць у раёне сіламі калгаснікаў, а таксама на прадпрыемствах Райпрамкамбінатаў і прамкааперацый вытворчасць збруі (ярма, пастронкаў і спец. хамутоў) для буйной рагатай жывёлы.

Рэкамендаваць калгасам і калгаснікам пры рабоце на каровах прымяняць мяккую вупраж (лямкі на карак, спецыяльна падрыхтаваныя ці прыстасаваныя хамуты).

3. Устанавіць для калгаснікаў, якія працуюць на каровах калгасаў, нормы выпрацоўкі ў памеры 1/3 ад нормы, прынятай калгасамі для такіх жа работ на конях, пры тых жа здзельных расцэнках.

Калгаснікам, якія працуюць у калгасах на сваіх каровах, пры выкананні нормы выпрацоўкі, устаноўленай для буйной рагатай жывёлы ў калгасах, налічваць працадні ў двайным памеры".

Але нягледзячы на ўсе цяжкасці, сяляне былі поўныя энтузіязму "забяспечыць поўную перамогу над беднасцю і цемнатой" і "забяспечыць лепшае жыццё і заможнае", для чаго добраахвотна аб'ядналіся ў калгасы. Менавіта аб гэтым – пратакол №1 агульнага сходу калгаснікаў в.Узбалаць таго ж сельсавета Валожынскага раёна, які адбыўся 14 сакавіка 1945 года":

Павестка дня:

1. Савецкі Саюз як індустрыяльная калгасная (дзяржава)

2. Арганізацыя калгаса

3. Прыняцце Прыкладнага сельскагаспадарчага статута арцелі.

1. Слухалі даклад Заг. Валожынскага РайЗемАддзела тав. Баранnікава аб арганізацыі калгаса, мэтах і задачах калгаса.

2. Пастанавілі:

"Гістарычным Рашэннем Партыі і Савецкага ўрада палажыць канец батрацкаму жыццю і рабоце на памешчыкаў Макрыцкага і Камара. Мы добраахвотна аб'ядналіся ў с/г арцель, каб агульнымі сродкамі вытворчасці і агульнай арганізаванай работай пабудаваць калектыўную, г.зн., агульную гаспадарку, забяспечыць поўную перамогу над кулакамі і памешчыкамі, над усімі эксплуататарамі працоўных, забяспечыць поўную перамогу над беднасцю і цемнатой. Над адсталасцю дробнай аднаасобнай гаспадаркі стварыць высокую вытворчасць працы і забяспечыць лепшае заможнае жыццё. Мы прыкладзём усе намаганні, каб наш калгас быў бальшавіцкім, а калгаснікі былі заможнымі. Мы поўныя ўсведамлення, што калгасны шлях — гэта шлях сацыялізму і адзіна правільны шлях для працоўнага сялянства. Мы будзем працаваць добрасумленна і берагчы калгаснае дабро.

3. Заслухаўшы даклад ЗагРайзо тав. Баранnікава, агульны сход работнікаў аднагалосна пастанаўляе ў члены арцелі наступных:

1. Васьковіч Дзімітра А.
2. Вайцюкевіч Зофія
3. Драздовіч Доля
4. Шарко Антаніна
5. Фядкевіч Ганна
6. Табар Еўдакія
7. Рагель Аляксандр
8. Высоцкі Станіслаў
9. Шарко Юзэфа
10. Высоцкая Марыя
11. Абрэзінская Люба
12. Смолік Марыя
13. Шалкоўскі Іосіф
14. Сухадолец Лідзія
15. Галдынская Еў.

4. Заслухаўшы даклад ЗагРайзо тав. Баранnікава, агульны сход работнікаў аднагалосна пастанаўляе выбраць у праўленне калгаса і рэвізійную камісію наступных:

Састаў праўлення:

1. Васьковіч Дзімітрый
2. Табар Еўдакія
3. Рагель Аляксандр
4. Шарко Антаніна
5. Галдынская Е.

Рэвізійная камісія:

1.Фядкевіч
2.Драздовіч
3.Вайцюкевіч

Агульны сход вырашыў назваць свой калгас імем "Сталіна" і гэтае імя высокага правадыра і настаўніка апраўдаць з гонарам ва ўсёй практычнай нашай рабоце.

5.Прасіць Райсавет дэпутатаў працоўных замацаваць зямельны масіў былога памешчыка Камара 203 га, памешчыцы Рамаnоўскай 65 га, а таксама землі сялян-аднаасобнікаў, якія знаходзяцца ўнутры гэтых масіваў.

6. Прыняцце Прыкладнага с/г статута арцелі, дзе неабходна:

1). Прысядзібны ўчастак мець 0,25-0,50 га, па меркаванні праўлення калгаса.

2). Скаціны мець 1-2 каровы 2 галавы буйной рагатай жывёлы, 10 авечак, неабмежаваную колькасць птушкі і трусоў, 20 вуллёў і ад 1-2 свінаматак з прыплодам. Усе астатнія пункты Прыкладнага с/г статута арцелі прыняць без змянення.

Прэзідыум: ВаськовічД., Шырокаў М., Табар Е."

**Наталля ІВАНОВА,**
**загадчыца аддзела занальнага дзяржархіва ў Маладзечне.**

# Жамчужына Паазер'я

## Падарожжа па Блакітных азёрах у паданнях і гісторыях

**МЯДЗЕЛ. Групу Блакітных азёр недарэмна называюць жамчужынай у каралях Паазер'я. Выглядае мясцовасць дужа маляўніча: абкружаная лясамі цёмна-блакітная роўнядзь вады змяняецца ўзгоркамі, вышыня якіх перавышае 50 метраў.**

Кожнае з азёраў своеасаблівае: Глубля вызначаецца зялёна-блакітным колерам вады, Балдук – глыбінёй, у Мёртвым не водзіцца рыба.

Прыгожыя і нехарактэрныя для Беларусі пейзажы, чысціня азёр і прыцягваюць турыстаў. А калі вам і экскурсавод добры патрапіцца, як краязнаўца з Камарова **Іван Драўніцкі**, то не толькі атрымаеце асалоду ад назірання пекных краявідаў, але і даз-наецеся шмат чаго цікавага.

### Мёртвае возера

Вандроўныя марскія воіны са Скандынавіі – вікінгі – па рацэ Страча трапілі ў край Блакітных азёр. Аблюбавалі яго для жыцця. Яны сталі несці тут ваенную службу ў князёў, займацца рыбнай лоўляй. Вызначаліся вікінгі асаблівым умельствам весці бой на вадзе, сябе лічылі «марскімі ваўкамі». Паводле іх звычаяў, астанкі памерлых ці загінуўшых патрэбна аддаваць не зямлі, а вадзе. Вось і выбралі яны для пагоста невялікае бясссточнае возера на левым беразе Страчы. Забітых у час баявых сутычак воінаў вікінгі хавалі з шанаваннем, на дно возера апускалі ў даспехах, астанкі памерлых ад старасці ці хваробы спальвалі, каб хвароба не распаўсюджвалася, а попел таксама апускалі на дно. Гэты вадаём назвалі возерам Мёртвых.

Аднаго дня ішоў з Полацка ў Вільню манах-пілігрым, які чуў пра незвычайнае возера-магільнік вікінгаў і вырашыў пацікавіцца ім. Сцямнела, надумаў тут і заначаваць. Выбраў месца пад сасной, памаліўся. Толькі пачаў укладвацца спаць, як над вадзяной гладдзю зазвінелі званочкі. Глянуў – з сярэдзіны возера падплывае да берага кораб, напоўнены каштоўнасцямі. Манах абхапіў яго, паставіў пад сасну і стаў разглядаць змесціва. На хвіліну ім авалодала сквапнасць: вось, думае, скарбаў хопіць, каб усё жыццё правесці ў багацці.

А потым сумненні яго ахапілі: "А можа, гэта нячыстая сіла мяне спакушае?"

Дрыжачай рукой ён перахрысціў кораб. У гэты момант узняўся віхор і закруціў верхавіну сасны, і зноў усталявалася цішыня. Потым з вышыні пачуўся мілагучны жаночы голас:

– Ты, высакародны манах, паступіў правільна. Табе я даю ганаровае даручэнне: вазьмі з кораба сердалікавую залатую брошку і занясі ў Вільню да абраза Маці Божай Вастрабрамскай. Гэта падарунак ад Полацкай зямлі, ад Ефрасінні...

Манах выканаў даручэнне.

А сасна з закручанай верхавінай стаяла некалькі соцень год і была цудадзейнай. Да яе прыходзілі самотныя і пакрыўджаныя, дзяліліся сваім горам і атрымлівалі душэўную палёгку. З гадамі старая сасна рухнула, а на яе месцы вырасла маладая з такой жа закручанай верхавінай. Яна таксама валодае ўласцівасцю здымаць душэўны цяжар, чым часта карыстаюцца прахожыя і турысты. А возера гэта любіць цішыню, гасіць розныя гукі і паглынае рэха.

### Панская дарога

У старажытныя часы сувязь паміж мясцовасцямі ажыццяўлялася па рэках. І Страча служыла шляхам зносін паміж Полацкай зямлёй і Вільняй. Потым уздоўж рэчак пачалі рабіць дарогі – з'явілася такая і ля Страчы. А як зрабілі Полацкі тракт, то патрэбы ў гэтай дарозе не стала. Але паны вырашылі яе выкарыстоўваць па-свойму. Дарога праходзіла па ўзвышшах, навокал – прыгожыя краявіды: рэчка, азёры. Паны брычку запрагуць, і ўперад, на прагулку. Дрэвы павысякалі, каб з вышыні добра было ўсё відаць. Самі паны каталіся, гасцей вазілі па гэтай дарозе.



Мядзельскі краязнаўца Іван Драўніцкі ведае шмат легенд і паданняў пра Блакітныя азёры. Гэтая старонка падрыхтаваная па яго расказах.

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА

### Балдук і Балдучыха

Сярод дрымучых лясоў, дзе зараз красуюцца азёры Балдук і Балдучыха, стаяла вёска. Жылі ў ёй працавітыя людзі: гадавалі жывёлу, палявалі, рыбачылі – усё здабытае дзялілі па справядлівасці. Ля кожнай хаты расла рабінка, з ягад і зёлак умелі рабіць лекі ад розных хвароб.

Але пасля таго, як у наваколлі з'явіўся злы вядзьмар, жыццё ў вёсцы разладзілася. Заразіў ён людзей зайздрасцю, сквапнасцю, няўжыўчывасцю. Дзеці перасталі паважаць бацькоў, бацькі апекавацца дзецьмі, брат пайшоў на брата. Быў сярод вяскоўцаў мудры, паважаны усімі чалавек – вяшчун, які умеў не толькі прадракаць будучыню, але пры небяспецы знаходзіць і спосаб уратавання. Двойчы ўратоўваў ён вёску: раз ад голаду і раз ад пошасці. І па законах магіі мог ён зрабіць гэта толькі тройчы. Варажнеча сярод людзей зайшла так далёка, што была страшней за голад і пошасць. Вяшчун стаў рыхтаваць чарадзейнае зелле. У гэты момант да яго прыйшоў вядзьмак, зарагатаў: "Дарэмна стараешся, вяскоўцы сапсаваліся канчаткова. Хаця ты выведаў сакрэт чароўнага зелля, але не знойдзеш людзей, каб згадзіліся на ахвярнасць дзеля другіх – б'юся аб заклад. Я нашлю на вёску бяду, і калі хоць дзесятая частка тваіх суседзяў праявіць клопат пра іншых, то я адступлюся, у вёсцы запануе дабрыня. А калі не, то не жыць людзям у гэтай прыгожай мясціне".

Вяшчун спадзяваўся на разважнасць сваіх аднавяскоўцаў, вераў, што ў час усеагульнай бяды яны згуртуюцца, не пакінуць бліжніх. Чарадзейнае зелле паказала, што выратаваць людзей ад бяды з дапамогай цудадзейнай вады змогуць Балдук і Балдучыха, бо іх сэрцы не заплямленыя ніякімі хібамі. Але ім прыйдзецца прайсці праз выпрабаванне, а калі вяскоўцы не апамятаюцца, то і загінуць. А людзей тады чакае выгнанне.

Цёмнай купальскай ноччу Балдук і Балдучыха пайшлі ў лясную глухамань за чароўнай вадой. Крычалі совы, патаемныя шоргаты, страшныя цені нейкіх пачвар суправаджалі іх, але яны дайшлі да цудадзейнай крыніцы, якая пырскала з-пад гары, і набралі вады. Калі вярнуліся ў вёску, то ўзняўся вецер, пачаў ламаць, крышыць рабінкі, зрываць стрэхі з хат, стаў лупіць пярун, а з неба, бы з магутнай ракі, хлынула вада. Людзі ад страху павыскоквалі з хат, ратаваў кожны сам сябе, ні пра дзяцей, ні пра хворых ніхто не падумаў. Вада залівала вуліцы, людзі сталі ўзбірацца на стрэхі, залазіць на дрэвы. Балдучыха выліла частку вады са збаночка, і навальніца адразу супакоілася. А людзі ператварыліся ў буслоў і, цяжка ўзмахваючы крыламі, пачалі пакідаць вёску, разлятацца ў розныя бакі. Як толькі дакраналіся зямлі, зноўку ператвараліся ў людзей. Яны заснавалі новыя вёскі: ад Барыса пайшла вёска Барысы, ад Янука – Януковічы, ад Яцака – Яцыны. Балдук і Балдучыха – сведкі гібелі роднай вёскі, сталі, трымаючыся за рукі, а потым растаялі, ператварыліся ў азёры. Як яны трымаліся за рукі, то і зараз азёры Балдук і Балдучыха звязаны між сабой рукой-пратокай. Рэшткі чароўнай вады са збаночка распырскаліся па наваколлі і па сённяшні дзень сцякаюць у азёры дзесяткамі крыніц.

**Запісаў Алесь ВЫСОЦКІ.**



### Блакітныя азёры

Група азёр: Глубля, Глубелька, Балдук, Ячмянёк, Мёртвае і іншыя, размешчаная на тэрыторыі Мядзельскага і Пастаўскага раёнаў. З 1972 года мясціны набылі статус дзяржаўнага ландшафтна -гідралагічнага заказніка, цяпер уваходзяць у Нацыянальны парк "Нарачанскі". Адметнасцю тэрыторыі з'яўляецца надзвычайнае багацце раслiннага свету.

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА

 



■ ФУТБОЛ, РЭГІЯНАЛЬНЫ КУБАК

## Беразінцы лепшыя ў раёне

МАЛАДЗЕЧНА. 9 лістапада. «Пуцеец» (Маладзечна) - ВРУП «Беразінскае» 1:4

Галы: Ігар Якаўлеў; Леанід Аўдзевіч (2), Ігар Сачук, Віталь Абановіч.

Пераможцы раённага і гарадскога чэмпіянатаў па традыцыі выяўляюць лепшага ў асабістым паядынку. Рэгіянальны кубак разыгралі на гарадскім стадыёне.

Беразінцы атрымалі валявую перамогу. Снег на полі стаў упрыгожваннем футбольнага свята, першыя 15 хвілін удзельнікі толькі прывыкалі да газона, а потым абмяняліся галамі. Спачатку маладзечанец **Ігар Якаўлеў** па леваму флангу атакі не знайшоў супрацьўлення збоку абаронцаў і адправіў мяч у сетку. У канцы тайма беразінцы адказалі голам **Леаніда Аўдзевіча** пасля галявога паса **Сачука**.

Другі тайм быў поўнасцю за раённай камандай. Добрая атака веерам закончылася дакладным ударам Абановіча у дальні вугал варот. Затым нападаючыя беразінцаў Аўдзевіч і Сачук вырашылі зыход гульні на карысць гасцей.

Брыгада суддзяў - **Дзмітрачкоў, Асіпенка, Ішчанка** - не дала падстаў сумнявацца ў прафесіяналізме і адпрацавала выдатна. Хоць і маладзечанцы. А загадчык гарадскога аддзела па фізічнай культуры, спорту і турызму **Мікалай Шрымф** камандзе торфабрыкетчыкаў уручыў рэгіянальны кубак.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

**Табло**

■ ПЛАВАННЕ

У Салігорску прайшлі спаборніцтвы на Кубак Беларусі ў 25-метровым басейне. Маладзечанка **Анастасія Лях** перашынствавала на дыстанцыях брасам 50 м (33,02) і 100 м (1.11,39), а таксама на 200 м "комплексам" (2.21,04), заняла 2 месца на 200 м брасам, крыху саступіўшы юнай гамяльчанцы **Вользе Рыжанковай**. Маладзечанец **Віталь Барташэвіч** быў першым на 50 м (29,27) і 100 м (1.03,18) брасам, другім на 200 м брасам.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ТАВАРЫСКІ МАТЧ

9 лістапада Смаргонь – Дынама-Юні 2:2

■ ШАШКІ, ШАХМАТЫ

МЯДЗЕЛ. Мядзяльчанка **Наталля Лысёнак** перамагла сярод дзяўчат у спаборніцтвах сярод школьнікаў раёна па шашках. Разам з тым, яна стала першай сярод вучаніц сярэдніх школ і па шахматах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

Выніковая табліца

Пасля назваў каманд дадзены вынікі матчаў "Забудовы" супраць іх: спачатку – дамашнія, потым – на выездзе.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. МТЗ-РІПА | 1:6 | 0:6 | 22 | 2 | 0 | 102-21 | 68 |
| 2. Пінск-900 | 1:4 | 0:2 | 16 | 4 | 4 | 50-22 | 52 |
| 3. Вертыкаль | 0:2 | 0:3 | 14 | 6 | 4 | 49-19 | 48 |
| 4. Спартак-ВАР-Днепр | 0:3 | 0:0 | 12 | 8 | 4 | 46-18 | 44 |
| 5. Баранавічы | 1:3 | 1:5 | 13 | 4 | 7 | 46-27 | 43 |
| 6. Верас | 1:0 | 1:5 | 10 | 3 | 11 | 40-32 | 33 |
| 7. Дынама-БНТУ | 4:1 | 1:0 | 9 | 5 | 10 | 30-35 | 32 |
| 8. СКВІЧ | 0:2 | 0:2 | 7 | 8 | 9 | 19-24 | 29 |
| **9. Забудова** | **#####** | | **8** | **3** | **13** | **24-52** | **27** |
| 10. РВАР | 1:0 | 2:0 | 5 | 10 | 9 | 24-34 | 25 |
| 11. Гомель-2 | 1:4 | 1:0 | 3 | 6 | 15 | 15-46 | 15 |
| 12. Палессе | 2:2 | 1:1 | 2 | 5 | 17 | 17-74 | 11 |
| 13. Старыя Дарогі | 3:0 | 2:1 | 2 | 2 | 20 | 12-70 | 8 |

Бамбардзіры: Валавік – 22; Петруковіч – 20 (абодва – МТЗ-РІПА); Сергель (Баранавічы) – 14 галоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ДУБЛЬ

Выніковая табліца

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Днепр-Трансмаш | 0:2 | 0:3 | 18 | 4 | 4 | 48-17 | 58 |
| 2. Дынама (Мн) | 0:2 | 0:5 | 17 | 6 | 3 | 51-23 | 57 |
| 3. Тарпеда-МАЗ | 0:7 | 1:3 | 16 | 5 | 5 | 55-17 | 53 |
| 4. БАТЭ | 1:1 | 0:5 | 15 | 5 | 6 | 56-24 | 50 |
| 5. Славія | 3:3 | 0:3* | 12 | 8 | 6 | 46-28 | 44 |
| 6. Гомель | 2:3 | 3:6 | 10 | 6 | 10 | 30-29 | 36 |
| 7. Зорка-ВА-БДУ | 1:0 | 0:1 | 9 | 9 | 8 | 30-37 | 36 |
| 8. Тарпеда | 1:2 | 1:2 | 9 | 7 | 10 | 25-31 | 34 |
| 9. Нёман | 2:1 | 0:1 | 10 | 1 | 15 | 31-47 | 31 |
| 10. Лакаматыў-96 | 0:2 | 0:5 | 9 | 3 | 14 | 43-45 | 30 |
| 11. Шахцёр | 3:3 | 0:3 | 8 | 3 | 15 | 30-46 | 27 |
| 12. Дынама (Бр) | 3:1 | 0:1 | 5 | 7 | 14 | 32-44 | 22 |
| 13. Белшына | 0:2 | 1:2 | 5 | 5 | 16 | 25-67 | 20 |
| **14. Маладзечна-2000** | **#####** | | **3** | **3** | **20** | **22-69** | **12** |

* У Мазыры залічана тэхнічнае паражэнне за спазненне на гульню

Бамбардзіры: Ю. Алешчанка (Лакаматыў-96), Вяроўка – па 13; Клачкоў (абодва – Тарпеда-МАЗ) – 10.

Статыстыка дубля "Маладзечна-2000"

Галы: Грыхуцік – 7; Альховік, Харэцкі – па 3; Млечка, Татун – па 2; Антановіч, Асіповіч, Відрук, Тартоўскі, аўтагол – па 1.

Матчы: Грыхуцік – 25; Абановіч, Матусевіч, Невядомскі – па 23; Альховік, Антановіч, Харэцкі, Ясюкевіч – па 22; Касцюк – 16; Лявончык – 14; Рубацкі – 13; Татун – 12; Калянюк, Пятроўскі – па 11; Асіповіч, Відрук, Мятліцкі – па 10; Ляпета – 9; Вайда, Смірноў – па 8; Бурачонак, Сопат – па 7; Сцепановіч, Сысой – па 6; Карпіленка – 5; Мазура, Млечка – па 4; Асадоўскі, Дормін, Тартоўскі – па 3; Дрозд, Кандраценя, Сідарэнка – па 2; Азява, Дараховіч, С. Лужынскі, Макрыцкі, Марцінкевіч, Міхалёў, Муравейнікаў, Сергіевіч – па 1.

За два сезоны найбольш забілі Грыхуцік (8) і Антановіч (5), найбольш матчаў правялі Антановіч (48), Альховік (45), Матусевіч (43), Лявончык (40), Грыхуцік (36), Абановіч (33), Відрук і Харэцкі (па 32).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Момант фінальнага матча маладзечанскага турніру. У гульні Мікалай Валасковіч, які ў гэтым матчы саступіў Уладзіміру Патапаву.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ БІЛЬЯРД

# Чарговы турнір у «Караліне»

**МАЛАДЗЕЧНА. У клубе "Караліна" прайшоў гарадскі турнір. Удзел прынялі 18 чалавек.**

Перамог 52-гадовы **Уладзімір Патапаў**, які працуе адказным сакратаром Маладзечанскай гарадской арганізацыі "Беларускае таварыства "Кніга". Ён на дадзены момант, безумоўна, лепшы з маладзечанскіх більярдзістаў, калі не браць у разлік **Івана Раковіча**, які не прымаў удзел у турніры. У фінале Патапаў з лікам 4:1 перамог 45-гадовага **Мікалая Валасковіча**, рабочага Маладзечанскіх электрасетак. У матчы за 3-е месца **Віталь Вінярскі** быў мацнейшым за **Аляксандра Русака**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ЭКСПРЭС-АНАЛІЗ

# ФК «Смаргонь» будзе прагрэсіраваць

**СМАРГОНЬ. Першы пасля доўгага перапынку сезон у першай лізе быў складаны для ФК "Смаргонь".**

Каманда увесь сезон была ў нізе табліцы, у сярэдзіне чэмпіянату змянілі трэнера, прыйшлі новыя гульцы. Ацэнку сёлетняму выступленню футбольнага клуба "Смаргонь" дае прэзідэнт клуба **Міхаіл Чуковіч**.

### Па ходу сезона

– Першы круг мы пачалі нармальна, перамаглі "Бярозу" і "Асіповічы", згулялі ўнічыю ў Магілёве і Светлагорску. Потым у саперніцкі каляндар даў больш моцныя каманды (увогуле за год набралі 1 ачко з прадстаўнікамі першай сямёркі – аўтар). Нашым футбалістам функцыянальнай падрыхтоўкі не хапіла, тут жа "падкасіла эпідэмія" траўмаў.

Па прапанове загадчыка аддзела па ФКСіТ **Мікалая Фастава**, камандзе быў прадстаўлены новы галоўны трэнер **Уладзімір Уткін**. Былому настаўніку **Андрэю Майсейчанку** было прапанавана застацца ў ролі памочніка. Яго ўклад ў станаўленне смаргонскага футбола значны. Каманда пад яго кіраўніцтвам зарэкамендавала сябе ў другой лізе, выйшла ў першую лігу, быў пастаянны рост вынікаў. Але Майсейчанка адмовіўся працаваць памочнікам. З'явіліся новыя футбалісты. Напрыклад, **Вадзіма Налівайку** і **Яраслава Жаркова**, якія сталі лідэрамі клуба, прывёз з сабою Уткін. Напачатку ў калектыве не хапала ўзаемапаразумення, не ўсе гульцы прынялі новае кіраўніцтва, былі збоі ў некалькіх матчах. Аднак урэшце, на маю думку, сказаўся багаты досвед Уткіна, з часам адбылося зліццё старога калектыву з навічкамі. Змяніўся стыль гульні, стыль трэніровак. Вялікі ўпор сталі рабіць на функцыянальную падрыхтоўку. Прывяду прыклад: напярэдадні матчаў да мяне сталі падыходзіць хлопцы, прасіць мёд, смятану, іншыя адпаведныя прадукты, каб якасна аднаўляць сілы.

### Гульня і дысцыпліна

Сапраўды, змест гульні змяніўся. У нас раней былі добрыя варатары, абаронцы, а вось нападзе не надта клеілася. У другім крузе сталі рабіць акцэнт на атаку (гэта пацвярджае розніца забітых і прапушчаных галоў: у першым крузе 8-16, у другім 13-20 – аўтар). Напрыканцы сезона, калі аднавіўся ад траўмы Дзмітрый Дзігілевіч, сфарміравалася моцнае атакуючае трыо. Жаркоў раздзірае абарону саперніка напарадзе, на галявыя пазіцыі выходзіць Налівайка, забіўшы за круг 6 галоў, іх падтрымлівае Дзігілевіч. Думаю, калі б можна было згуляць некалькі матчаў, мы бы ўзняліся ў табліцы.

Наогул, ставілася задача ўвайсці ў дзесятку. Для яе выканання не хапіла самай дробязі (5 ачкоў – аўтар), проста не пашанцавала ў асобных матчах. Затое ў камандзе ўзрасла дысцыпліна, адчуваецца рука новага трэнера. Ён сам адлічыў прыйшоўшага з ім Вадзіма Сайфудзінава, былі адлічаны таксама Андрэй Селіванаў, які п'яным заявіўся на трэніроўку. Пазбавіліся мы нападаючых Валерыя Стэльмаха і Вячаслава Шпакоўскага, якія мала чым дапамагалі. Куды цяжэй было развітацца з капітанам каманды Дзмітрыем Івановым. За дзве гульні да завяршэння сезона ён перастаў з'яўляцца на трэніроўках, знайшлі яго выпіўшым у гасцінічным нумары. Так працаваць нельга.

### Перспектывы

Рыхтавацца да новага сезона пачнем 20 студзеня. На прыкмеце ў Уткіна некалькі гульцоў з Украіны, відаць, будзем яшчэ ўзмацняць склад. Магчыма, развітаемся з Аляксандрам Мяцем і Дзмітрыем Міхадзюком. Безумоўна, патрэбны нам такія футбалісты, як Генадзь Шэлест, Сяргей Шляхавой, Валерый Курак, Уладзіслаў Дукса. Будзем ставіць задачу заняць 6 месца. Фінансаванне, думаю, застанецца на ранейшым узроўні. Кіраўніцтва раёна бачыць запоўненыя трыбуны на дамашніх матчах ("Смаргонь" на другім месцы ў лізе па наведвальнасці пасля светлагорскага "Хіміка" – аўтар). Уткін з самага свайго прыходу амаль на кожнай устаноўцы гаворыць футбалістам: "Мы прыехалі сюды зарабляць грошы. Гэта можна зрабіць толькі якаснай гульнёй, поўнай самааддачай. Тады балельшчыкі падзякуюць камандзе".

Сёлета пабудавалі выдатную базу, двухпавярховы камфортны будынак, устанавілі электроннае табло. Прадстаўнік федэрацыі футбола Ігар Бялоў сказаў, што мы выйшлі на еўрапейскі ўзровень. Хіба толькі поле пакідае жадаць лепшага, будзем імкнуцца і яго паляпшаць.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

 

# ВІНШАВАНКІ

З юбілеем!
**Ноне Аляксандраўне Жураўлёвай**
Дарагая і любімая наша, шчыра віншуем! Зычым моцнага здароўя, бадзёрасці, захаваць на доўгія гады маладосць духу, жывы розум і выдатныя чалавечыя якасці.



Хай будзе век шчаслівы!
Ад нас усіх паклон.
Здароўя табе, мілая,
блакітных зычым дзён.
Багацце тваё вечнае ў шчырай цеплыні.
Ты, самая сардэчная,
ад нас любоў прымі.
*З павагай і любоўю дзеці, муж.*

З днём нараджэння
і прафесійным святам –
Днём работнікаў сельскай гаспадаркі!
Дырэктару ДСГУ "Маладзечанская сортавыпрабавальная станцыя"
(в. Маркава)
**Аркадзію Міхайлавічу Асіповічу**



Паважаны Аркадзій Міхайлавіч! Віншуем Вас шчыра і сардэчна! Прыміце ад нас найлепшыя пажаданні моцнага здароўя, асабістага і сямейнага шчасця, новых поспехаў у Вашай плённай працы.
Пусть каждый день
Ваш будет светлым.
Пусть Ваше сердце
Будет щедрым.
От всей души желаем счастья,
В работе — радостных побед.
Пусть обойдут Вас все ненастья,
Как будто их в природе нет.
*Калектыў станцыі.*

Віншуем сям'ю **Сяргея Плыгунова** з нараджэннем сына Мікіты! Жадаем здароўя першынцу і маці, шчасця ў сям'і. *Калектыў "Рэгіянальнай газеты".*

Віншуем **Яначку Кодзіс** з 10-годдзем! Жадаем поспехаў у вучобе, шчасця, здароўя. Мы цябе любім. *Мама, тата, Артур.*

Віншуем **Яўгенію Астрамовіч** з днём нараджэння! Жадаем сямейнага дабрабыту, шчасця, здароўя. *Ніна і Віктар.*

Віншуем **Сяргея Путырскага** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, удачы, шчасця, цяпла. *Сябры.*

Віншуем **Ірыну Звярко** з днём нараджэння! Шчасця, моцнага здароўя, удачы! *Мама, тата, браты.*

**Лорачка Глуская**, віншуем з днём нараджэння! Шчасця табе, здароўя, удачы і шмат сяброў. *Лена, Саша, г. Вілейка.*

Віншуем з 40-годдзем **Міхаіла Людвікавіча Цауню**! Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у справах, бадзёрасці. *Суседзі.*

**Іначку Анкуда** віншую з днём нараджэння! Жадаю поспехаў, моцнага здароўя, заставацца жыццярадаснай. *Сяброўка Наталля.*

**Веру Аляксандраўну Івашкевіч** віншую з днём нараджэння! Пусть ваша жизнь счастливой будет, удача улыбнуться не забудет. *Ульянаўна.*

Віншуем **Віктара Шаблінскага** з 18-годдзем! Жадаем моцнага кахання, здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага. *Сяброўка Іна, сястра Таццяна.*

Віншуем з 40-годдзем **Іосіфа Баляслававіча Лемяшонка** з в. Касцяневічы! Жадаем сямейнага дабрабыту, шчасця, здароўя. *Святохі, Івашкевічы.*

Віншуем з днём нараджэння **Аксану Бычок**! Жадаем добрага здароўя, сямейнага дабрабыту, вясёлага настрою, шчасця і кахання. *Калегі.*

З 20-годдзем віншуем **Сяргея Свідуловіча** з Вілейкі! Пусть ненастье и горе обойдут стороной, только радости море и мы рядом с тобой. *Мама, тата, Лена, Віталік.*



# ЗНАЁМСТВЫ

Жанчына 45/168/54 спадзяецца на сустрэчу з разумным, добрым, з пачуццём гумару мужчынам. 222310, Маладзечна-6, п/п МС 0881527.

Нежанаты, адукаваны, самастойны малады чалавек 32 год спадзяецца сустрэць надзейную спадарожніцу жыцця. Маладзечна-4, п/п МС 0666683.

Пазнаёмлюся з адзінокай жанчынай. Пра сябе: 47/178/80, адзінокі, без шк/зв., з жыллём, матэрыяльна незалежны. Прыемны ў зносінах. Маладзечна-7, п/п МС 0182929.

## Кінатэатр «Радзіма»



**18-24 лістапада.**
Маладзёжная камедыя **"Сцерва"**, ЗША – у 17.00 і 21.00. Фільм пра бесперапынныя няўдачы на любоўным фронце.

Захапляльны баявік **"Антыкілер"**, Расія – у 19.00.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

16 лістапада – **"Вялікі мышыны сышчык"**, ЗША – у 13.00.
17 лістапада – **"Блытаніна"** і іншыя мультфільмы – у 13.00.

2-і паверх, БАР. ДЫСКАТЭКА. У 21.00 у пятніцу, суботу і нядзелю – для моладзі. У 17.00 у суботу і нядзелю — для школьнікаў.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

# Купон 46

рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# «Ахова» адкрыла музей

**МАЛАДЗЕЧНА. У гарадскім аддзеле аб'яднання "Ахова" адкрыўся музей.**

Урачыстае адкрыццё прымеркавалі да 50-годдзя ўтварэння "Аховы", якое было ў канцы кастрычніка. На свята запрасілі ветэранаў службы, удзельнікаў другой сусветнай вайны. У музеі сабралі больш за 50 экспанатаў – дыпломы, ўзнагароды, кнігі, фотаздымкі. Яны падзелены на 2 часткі – гісторыя і сучаснасць. Першыя сабраныя з іншых музеяў, другія – сіламі работнікаў "Аховы".

Музей адкрыты для наведвання і будзе папаўняцца новымі экспанатамі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



**Адзін з экспанатаў у новым музеі – пішучая машынка, на якой працавалі ў канцы 60-х гадоў.**
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Чаму можа навучыць канфлікт?

**Як пазбегнуць канфлікту, як яго вырашыць і якую карысць можа даць канфлікт? Вось што раіць псіхолаг.**

Калі узнікае канфлікт, то лепшы спосаб яго вырашыць – правесці размову паміж удзельнікамі канфлікту. Для гэтага неабходна ведаць галоўныя элементы зносін. Іх шэсць.

1. Удзяляйце ўвагу "мове" жэстаў, калі ўбачыце, што думкі і пачуцці чалавека разыходзяцца з яго словамі. Выносьце гэтыя супярэчнасці на адкрытае абмеркаванне.

2. Сачыце за тым, каб у чалавека не было схаваных ці лжывых меркаванняў ці ўстановак. Абмяркоўвайце іх адкрыта, каб памылкі можна было выправіць.

3. Старайцеся рабіць зносіны больш адкрытымі. Дыпламатычна гаварыце аб тым, што думаеце або адчуваеце і пабуджайце да гэтага субяседніка.

4. Пазбягайце незразумеласцей. Калі вам штосьці незразумела, то папрасіце тлумачэння. І дайце тлумачэнне самі, калі нешта не разумее ваш субяседнік.

5. Навучыцеся правільна слухаць. Праяўляйце пры гэтым зацікаўленасць і павагу да субяседніка. Скажыце, што яго пачуццё і зразумеюць.

6. Ветліва выказвайце свае пачуцці і жаданні.

Канфлікт можна скарыстаць як крыніцу для самавыхавання. Для гэтага неабходна высветліць, чаму вас навучыў канфлікт. Калі пасля вырашэння праблемы вы знойдзеце час, каб успомніць прычыну канфлікту і тое, як ён працякаў, то вы зможаце больш дакладна ведаць пра саміх сябе, аб людзях, якія былі ўцягнуты ў канфлікт, і аб абставінах, якія садзейнічаюць канфлікту.

Каб перажыць канфлікт, трэба не прымаць яго блізка да сэрца. Бо падчас канфлікту адмоўныя эмоцыі могуць захлiснуць вас. Тады гэта прывядзе вас да пераацэнкі размераў драмы, можа падарваць вашу самаацэнку і зрабіць няшчасным.

Як пераадолець адмоўныя эмоцыі?

1. Даруйце самім сабе. Не займайцеся самабічаваннем, гэта толькі падарве ваша здароўе.

2. Кантралюйце свае эмоцыі. Думайце аб вясёлым, пераводзіце ўвагу на прыемныя думкі.

3. Пастарайцеся развеяцца. Займіцеся разумовай ці фізічнай працай.

4. Не давайце другім людзям стрымліваць вас. Не трацьце сілы на скептыкаў, якія не будуць вас чуць.

**Таццяна СКАРНЯКОВА.**

■ ІМЯНІНЫ

**15 лістапада**
**Праваслаўныя**: Афонія, Маркіяна.
**Каталіцкія**: Альберта, Леапольда.

**16 лістапада**
**Праваслаўныя**: Агапія, Георгія, Іосіфа.
**Каталіцкія**: Гертруды, Малгажаты, Эдмунда.

**17 лістапада**
**Праваслаўныя**: Анікея, Нікандра.
**Каталіцкія**: Альжбеты, Саламеі, Рыгора.

**18 лістапада**
**Праваслаўныя**: Галакціёна, Іоны, Рыгора.
**Каталіцкія**: Анелі, Рамана.

**19 лістапада**
**Праваслаўныя**: Аляксандры, Афанасіі, Клаўдзіі, Матроны, Германа, Лукі, Паўла.
**Каталіцкія**: Альжбеты, Саламеі, Іпаліта, Северына.

**20 лістапада**
**Праваслаўныя**: Антаніна, Апанаса, Багдана, Валерыя, Дарафея, Епіфана, Засімы, Іларыёна, Калініка, Лазара, Нікандра, Нікана, Феафіла, Фёдара, Фядота, Яўгена, Яўціхія.
**Каталіцкія**: Анатоля, Фелікса.

**21 лістапада**
**Праваслаўныя**: Гаўрылы, Міхаіла, Рафаіла.
**Каталіцкія**: Кандрата, Конрада, Яна.

■ ТВАЁ ІМЯ

# Рыгор

Паходзіць імя ад грэчаскага – "грыгорас" – "які не спіць". Энергія гэтага імя вельмі значная, і часта нават імя па бацьку Рыгоравіч уздзейнічае на чалавека мацней, чым яго ўласнае імя. Гэтую энергію Рыгор пачынае адчуваць з самага ранняга дзяцінства, яна заклікае яго дзейнічаць без аглядкі, імкнуцца да ажыццяўлення сваёй мэты і не вельмі задумвацца аб цяжкасцях. Бацькам з ім няпроста. Рыгор з усіх сіл стараецца быць паслухмяным хлопчыкам. Аднак ён непаседа, калені ў яго заўжды збітыя, чыстыя шкарпэткі ўмомант ператвараюцца ў брудныя, сама сабой б'ецца пасуда, да якой датыкаюцца яго рукі. Любімы занятак – бегаць па лужах. Дзяўчынак не крыўдзіць, але калі яны яго дражняць, то можа іх і пакалаціць.

У школе Рыгор можа часта адставаць па многіх прадметах, але раптам можа праявіць незвычайныя здольнасці, хутка навярстаць упушчанае і на здзіўленне ўсіх паспяхова здаць экзамены ў якую-небудзь прэстыжную ВНУ. А сакрэт тут просты – яму патрэбна мэта.

Дарослы Рыгор знаходзіць у сабе рысы лёгкай ранімасці, павышанай душэўнай чуллівасці. Сухі тон можа надоўга вывесці яго з псіхічнай раўнавагі. Падабацца ўсім і заўсёды — яго дэвіз, і таму ён шмат увагі надае модзе, далікатны ў зносінах.

Лёс яго, хутчэй за ўсё, будзе няпростым, асабліва калі ён не зможа ўправіцца са сваёй гарачнасцю. Яго дзёрзкасць амаль заўсёды забяспечвае на шляху нямала перашкод, аднак яна ж у спалучэнні з самаўпэўненасцю і імкненнем да славы, бывае, здольная і ўзняць яго да галавакружных вышынь.

Паспяхова можа працаваць фатографам, інжынерам, журналістам, вадзіцелем, але хваравіта адносіцца да спробаў кіраваць ім. Любіць наведваць футбольныя матчы, знаток хакея.

Будучая жонка Рыгора не абавязкова павінная мець прэстыжную спецыяльнасць ці рабіць прафесійную кар'еру, быць выключна прыгажосці ці паходзіць з высоказабяспечанай сям'і. Для яго намнога важней, каб жонка была добрай гаспадыняй, роўнай па характары, мірылася з яго звычкамі. Рыгор, напрыклад, любіць паспаць пасля абеду. Ён – гурман. Грошай на яду не шкадуе, хаця ў магазін і на рынак ходзіць неахвотна. Любіць, каб грошы ў сям'і знаходзіліся пад яго кантролем. Жонка з гэтым звычайна мірыцца, бо грошы зарабляць ён умее.

Рыгор не заўсёды можа ўстаяць перад прывабнай жанчынай, таму жонцы трэба быць абачлівай у выбары сяброван. Дзеці ж вельмі любяць Рыгораў-татаў.

